PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 12 (2132) Год XLII Беласток 23 сакавіка 1997 г. Цана 1 зл.

# Запавет: Змагацца за сваю дзяржаву



*Народны сакратарыят Беларусі. Злева направа: сядзяць — Аляксандр Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка, Васіль Захарка; стаяць — Аляксандр Смоліч, Пётр Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Леанард Заяц.*

Беларусы стагоддзямі існавалі як народ. Толькі пад канец XIX ст. некаторыя нашы суродзічы пачалі ўсведамляць сябе як нацыю. Працэс станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі быў вельмі марудны. Запавольваў яго не толькі расейскі прыгнёт. Каталікі звычайна лічылі сябе палякамі, а працэс паланізацыі беларускага каталіцкага сялянства на пераломе XIX і XX ст.ст. нават паскорыўся. Частка нацыянальнай эліты жыла яшчэ міфам Вялікага княства Літоўскага. У выніку таго беларускі палітычны рух ставіў сабе як задачу або аўтаномію ў рамках Расейскай імперыі, або аўтаномію ў рамках аднаўленай Рэчы Паспалітай. Так было да I сусветнай вайны.

Да думкі аб самастойнасці дзяржавы беларусы прыйшлі толькі праз страшэнныя ваенныя пакуты, бежанства, разбурэнне і падзел краіны.

Як першыя ўзнялі справу будучага дзяржаўнага ладу на Беларусі тыя беларускія дзеячы, якія засталіся ў Вільні пад нямецкай акупацыяй. У лютым 1916 г. паўстала тут канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага. Ініцыятарамі яе стварэння былі браты Іван і Антон Луцкевічы. Будучыню Беларусі бачылі яны, прынамсі часова, у федэрацыі з Літвой.

На расейскім баку фронту адкрытая палітычная дзейнасць стала магчымай толькі пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. У Мінску паўстаў Беларускі нацыянальны камітэт, які дамагаўся аўтаноміі Беларусі ў рамках Расейскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі. Як расейскія дэмакраты, так і бальшавікі, пасля кастрычніцкай рэвалюцыі адмаўлялі беларусам права на аўтаномію.

Такім чынам, Усебеларускі З'езд, скліканы ў палове снежня 1917 г. у Мінску, стаў перад вельмі цяжкай праблемай. Нягледзячы на бальшавіцкія правакацыі, З'езд працаваў да 31 снежня. У гэты дзень З'езд прыняў рэзалюцыю аб утварэнні на Беларусі краёвай улады ў выглядзе Усебеларускай Рады сялянскіх, жаўнерскіх і рабочых дэпутатаў.

Пасля прыняцця гэтай рэзалюцыі З'езд быў разагнаны бальшавікамі, а яго прэзідыум — арыштаваны. Усё ж такі дэлегаты не паддаліся бальшавіцкаму дыктату.

Ужо на другі дзень яны сабраліся ў дэпо Лібава-Роменскай чыгункі і вырашылі змагацца з бальшавіцкай уладай. На пачатку студзеня 1918 г. Рада З'езду на патаемным сходзе выбрала Выканаўчы камітэт і абавязала яго пераняць функцыі выканаўчай улады на Беларусі ў спрыяльны момант. Старшынёй Выканаўчага камітэта стаў Язэп Варонка. Ён і кіраваў дзейнасцю Камітэта, хаця яго двойчы арыштоўвалі.

18 лютага пачаўся наступ нямецкіх войск на ўсім фронце. Сярод бальшавікоў у Мінску пачалася паніка. Яны пачалі рыхтавацца да эвакуацыі. Вечарам 19 лютага супраць іх выступілі са зброяй у руках беларускія паўстанцы пад камандаваннем Кастуся Езавітава. Ноччу ўвесь цэнтр горада быў ужо ў руках беларусаў.

21 лютага Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага З'езду звярнуўся да народа Беларусі з Першай Устаўной Граматай, у якой аб'явіў сябе часовай уладай у Беларусі. Выканаўчую ўладу перадаў Народнаму сакратарыяту з Язэпам Варонкам на чале.

Калі немцы ўвайшлі ў Мінск, не прызналі беларускай улады, выгналі Народны сакратарыят з яго сядзібы і скінулі з яе беларускі сцяг. Усё-такі беларускія дзеячы не здаваліся.

9 сакавіка Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага З'езду выдаў Другую Устаўную Грамату, у якой Беларусь абвяшчалася Народнай Рэспублікай. 18 сакавіка Рада Усебеларускага З'езду ператварылася ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.

23 сакавіка Раду БНР папоўнілі дэлегаты Віленскай Беларускай Рады (якая ўжо 19 лютага прыняла пастанову аб парванні дзяржаўных сувязей Беларусі з Расеяй). Пасля іх прыбыцця, 24 сакавіка пачалося ўрачыстае пасяджэнне Рады БНР з удзелам новых членаў. Абмяркоўвалася прапанова абвясціць незалежнасць БНР. Пасля бурлівай дыскусіі, раніцай 25 сакавіка Рада прыняла Трэцюю Устаўную Грамату. Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай.

Сёння цяжка ўявіць сабе, якой маральнай сілы патрабавала падобнае рашэнне. Скідаючы расейскае ярмо, Рада БНР зрабіла апошні крок на шляху да самавызначэння беларускай нацыі. З гэтай пары беларусы маюць запавет: змагацца за сваю дзяржаву.

**Алег Латышонак**

## Трэйцяя Ўстаўная Грамата

*Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь, ні пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. **Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавою.** Самі народы Беларусі, у асобі свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.*

*На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду подпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берэсьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.*

*Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне Магілеўшчыну, беларускіе часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрныяў, заселеныя беларусамі.*

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пацьверджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўнай граматай ад 9 сакавіка 1918 г.*

*Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна дзяржаўныя ідэалы.*

***Рада Беларускай Народнай Рэспублікі***

Дана ў Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 г.

*Паводле збору дакумэнтаў „За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі”. Лёндан, 1960.*

# Мы прачыталі

*Wybór między zadowoloną z siebie lewicą i sfrustrowaną — pożal się Boże — prawicą jest dziś problemem polskim numer jeden. Istnieją oczywiście polityczne siły rozsądku, ale nie mają szans. Ci wyborcy, którym wiedzie się dobrze czy choćby jako tako, poprą SLD, bo boją się kolejnych reform. Ci, którym wiedzie się źle, poprą prawicę, obiecującą zmiany. Klasa średnia, która teoretycznie powinna optować za w miarę liberalną polityką i popierać Unię Wolności tego nie zrobi. Będzie głosować za tymi, którzy głośno będą zwalczać zagraniczne supermarkety. A więksi przedsiębiorcy poprą nie tych, którzy są za wolnym rynkiem i zniesieniem koncesji, lecz tych, u których mogą te koncesje uzyskać.*

*Tak więc dzisiejszy polski problem numer jeden ma rys tragiczny. Nie z powodu bezmiaru nieszczęść grożących Rzeczypospolitej. Teraz grozi nam kolejna strata czasu historycznego i utrwalona drugorzędność. Ten tragizm jest taki jak w greckiej antycznej tragedii, mimo świadomości zagrożenia, mimo podejmowanych wysiłków nie możemy już zatrzymać mechanizmu prowadzącego do klęski.*

*Polityka, nr 9*

На шчасце беларускі выбаршчык на Беласточчыне такіх праблемаў не мае. Галасуючы заўсёды беспамылкова выбірае прэзідэнта ці прэм'ер-міністра.

* * *

*Waldemar Pawlak znów porozmawiał z prasą. Na pytanie dziennikarzy odpowiedział po gospodarsku: „Sio stąd”.*

*Poseł Sojuszu Lewicy Demokratycznej Ireneusz Sekuła, chociaż posiada willę w Warszawie, poprosił Prezydium Sejmu o pokój w hotelu dla parlamentariuszy, żeby mógł tam lepiej skupić się przed sesjami parlamentarnymi. W związku z tym, że nie było wolnych miejsc wynajęto mu pokój w hotelu Grand za 84 zł. za dobę. Po trzech tygodniach nie zważając na immunitet poselski wyrzucono posła Sekułę z Grandu, za organizowanie zbyt hucznych imprez. Za karę Kancelaria Sejmu przeniosła Sekułę do hotelu Solec, gdzie płaci za niego 130 zł za dobę.*

*Polityka, nr 9*

* * *

*Zdaniem prezesa Unii Polityki Realnej Janusza Korwina-Mikke, bezpieczniej jest położyć granat na ulicy, niż wypuścić bandytę na przepustkę z więzienia. Granaty same nie wybuchają, a bandyci sami mordują.*

*Kurier Poranny, nr 52*

Шкада, што Корвіна-Міке таксама не будзе ў новым Сейме.

* * *

*Afgańscy talibowie ogłosili obowiązek noszenia bród dla wszystkich mężczyzn. Uchylającym się grozi więzienie lub obicie batem.*

*Gazeta Wyborcza, nr 55*

* * *

*Jelcyn zaproponował prezydentowi Aleksandrowi Łukaszence przeprowadzenie referendum na temat integracji jeszcze w styczniu 1997 r. Niektórzy obserwatorzy wątpili jednak, czy Jelcyn w ogóle wie, że napisał taki list Łukaszence. Rosjanie zaproponowali prezydentowi Łukaszence posadę generał-gubernatora oraz wiceprezydenta ds. Białorusi, ale bez rządu i parlamentu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 52*

Пост графа Мураўёва павінен таксама задаволіць Аляксандра Рыгоравіча, паколькі дае ён менавіта шанц замацаваць яго пазіцыю ў гісторыі расейскай дзяржавы.

* * *

*У Петрыкаўкаскім раёне Гомельскай вобласці прыдумалі, якім чынам ліквідаваць запазычанасць па зарплаце, што ўтварылася на канец 1996 года. Раённае кіраўніцтва — спусціла калгасам і саўгасам раёна цыркуляр: „Выдаць збожжам будучага ўраджаю з разлікам 3 тыс. рублёў за 1 кілаграм”. Людзям астаецца толькі чакаць восенні. Геніяльнае рашэнне. І вопыт гэты варты распаўсюдзіць на ўсю краіну: швачкам выдаць зарплату непашытымі касцюмамі, на якія яшчэ і матэрыял не куплены, хлебапёкам — хлебам, які будзе спечаны з зерня таго самага будучага ўраджаю і г.д.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 8*

* * *

*Jedną z najbardziej odpychających cech naszej klasy politycznej jest jej agresywne ponuractwo. W Polsce politykę uprawiają ludzie pozbawieni poczucia humoru, a zatem — niezbyt inteligentni. A umysł ograniczony jest umysłem agresywnym*, — піша Анджэй Шчыпёрскі.

*Gazeta Wyborcza, nr 53*

* * *

*Я ўмею гаварыць так, як гавораць і не палякі, і не беларусы*, — сказаў Віктар Шалкевіч.

*Культура, н-р 7*

Г.зн. як, Віценька?

* * *

*Цяжка зразумець крывадушнасць лукашэнкаўскіх чыноўнікаў, якім баліць душа за беларускія школы на Беласточчыне, у сябе тым часам мэтанакіравана іх знішчаюць, пераўтвараюць у рускія. Можа яны спадзяюцца, што польскія беларусы яшчэ раз захаваюць для нас за мяжой нашу мову? Ды не, беларуская школа будзе ў Беласточчыне толькі тады, калі яна будзе тут, у Беларусі.*

*Свабода, н-р 17*

# З мінулага тыдня

**Самі пра сябе** — так называецца паўгадзінная перадача Беластоцкага тэлевізійнага асяродка пра нацыянальныя меншасці ў паўночна-ўсходняй Польшчы. Першая перадача, якая выйшла ў тэлеэфір 9 сакавіка г.г. а гадзіне 9-тай, датычыла беларускай, украінскай і цыганскай меншасцей. Толькі беларускі фрагмент перадачы адлюстроўваў актуальныя здарэнні з багатага грамадска-культурнага жыцця нашай супольнасці на Беласточчыне. Бельскія ўкраінцы ў сваю чаргу паказалі галоўным чынам матэрыялы, падрыхтаваныя канадскай і кіеўскай тэлестудыямі. Тэлеперадачы пра нацыянальныя меншасці будуць з'яўляцца на экранах тэлевізараў у кожную нядзелю.

**Міжнародны тыдзень тэатра** адбудзецца ў Беластоку ў днях 20-27 сакавіка. На падмостках Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі выступіць шэсць калектываў з Беларусі, ЗША, Літвы, Нарвегіі, Польшчы і Украіны. **Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з Менска** пакажа беластоцкім тэатралам два спектаклі на беларускай мове: „Крывавая Мэры” Дзмітрыя Байко (панядзелак, 24 сакавіка, гадз. 17 і 19.30) і „Ромул Вялікі” Фрыдрыха Дзюрэнмата (аўторак, 25 сакавіка, гадз. 18).

**Канцылярыя Прэзідэнта** накіравала ў Сейм праект закона аб самаўрадавых выбарах. Новае палажэнне прадугледжвае, што войты, бурмістры і прэзідэнты гарадоў будуць выбірацца ў непасрэдным галасаванні. Паводле гэтага праекта кампетэнцыі ўправы, як выканаўчага органа гміны, пераняў бы войт (бурмістр, прэзідэнт), а на гэты пост маглі б балаціравацца кандыдаты, прапанаваныя палітычнымі партыямі.

**Згуртаванне славянскіх нацыянальных меншасцей у Рэспубліцы Польшча**, якому лідзіруе **Яўген Чыквін**, ствараецца ў Беластоку з мэтай аб'яднання меншасных арганізацый, якія гуртуюць у сваіх радах праваслаўных, перад надыходзячымі парламенцкімі выбарамі.

**XIV Агульнаадукацыйны ліцэй** у Беластоку пачне сваю дзейнасць 1 верасня г.г. Новая сярэдняя школа будзе змяшчацца ў сядзібе Пачатковай школы № 36 пры вул. Упальнай.

**У Беластоку** 2 470 наймальнікаў і 350 уласнікаў кватэр не плацяць арэнды. З тае прычыны гарадская казна страціла 5 800 000 зл. 80% даўжнікоў не плацяць больш чым два гады, а 2 100 000 зл. вярнуць ужо будзе немагчыма.

**На пагранпераходах у Кузніцы-Беластоцкай і Баброўніках** выстрайваюцца шматгадзінныя чэргі аўтафураў і легкавых машын. Галоўнай прычынай такой сітуацыі сталі дэталёвыя мытныя кантролі на беларускім баку і г.зв. паляпшэнне дысцыпліны працы тамашніх мытнікаў. Аб'ектыўная прычына „пробак” на граніцы — гэта ўстарэлая інфраструктура і малая прапускная здольнасць памежных пунктаў.

**Транспартнікі** штораз часцей парушаюць законы аб умовах выконвання міжнароднага дарожнага транспарту. Апрача адсутнасці адпаведных дакументаў часта перавозяць яны ядахімікаты і іншы экалагічна небяспечны груз, на транспарт якіх не маюць дазволу. У мінулым годзе на агульны лік 2 200 правапарушэнняў (на 140% больш, чым у мінулым годзе) найбольш такіх фактаў зарэгістравана на граніцы з Нямеччынай (748) і Беларуссю (634). Напрыклад, з чыгуначнай станцыі ў Семяноўцы былі вернуты назад 88 беларускіх вагонаў з тэхналагічнымі адходамі хларыду натрыю, якім мелі ў нас пасыпаць абледзянелыя дарогі.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Мілейчыцкія яўрэі** — ва ўспамінах Уладзіміра Пракаповіча.
- **Пра гаспадароў-пенсіянераў** — піша Мікалай Лук'янюк.
- **У Аўстраліі восень** — паведамляе Сымон Шаўцоў.

# Весткі з Беларусі

### Заява прэзідэнтаў

Прэзідэнты Расеі — Барыс Ельцын і Беларусі — Аляксандр Лукашэнка падпісалі ў Маскве супольную заяву, якая „ахоплівае ўвесь комплекс двухбаковых адносін”, — паведаміў памочнік расейскага прэзідэнта па міжнародных пытаннях Дзмітрый Рурыкаў. Паводле яго, падчас сустрэчы не абмяркоўваліся „ні форма далейшай інтэграцыі абедзвюх дзяржаў, ні тэрміны рэферэндумаў”. Дзмітрый Рурыкаў падкрэсліў, што размовы характарызаваліся „канкрэтнасцю, дружалюбнасцю і змястоўнасцю”, а прэзідэнты засяродзіліся на пытаннях супрацоўніцтва абедзвюх краін, інтэграцыі і еўрапейскай бяспекі, асабліва на справе каардынацыі замежнай палітыкі абедзвюх дзяржаў у адносінах да НАТО, Еўрапейскага Саюза і іншых міжнародных арганізацый.

### Супраць інтэграцыі

Каля трох тысяч мянчан удзельнічала 10 сакавіка ў дэманстрацыі супраць інтэграцыі Расеі і Беларусі. Дайшло да сутычкі дэманстрантаў з АМАПам, у выніку чаго некалькі дзесяткаў асоб атрымалі раненні. Больш за дзесяць чалавек былі міліцыяй затрыманы. Папраўдзе Менскі гарвыканкам дазволіў арганізатарам на правядзенне пікетавання з удзелам толькі сарака чалавек, але на плошчу Незалежнасці выйшла некалькі тысяч праціўнікаў беларуска-расейскай інтэграцыі, якія скандзіравалі лозунгі „Жыве Беларусь!”, „Далоў маскалёў!”, „Далоў Лукашэнку!”. Спалілі яны куклу з выявай прэзідэнта краіны. Дэманстрацыя адбылася напярэдадні III парламенцкай сесіі Супольнасці Расеі і Беларусі, на якой дэпутаты абмяркоўвалі далейшы ход інтэграцыйных працэсаў у абедзвюх дзяржавах.

### Культурны пакет

Беларусь і Польшча маюць не толькі агульную дзяржаўную граніцу, але і адзіныя гістарычныя і культурныя карані. На захаванне і развіццё цесных духоўных сувязей паміж дзвюма дзяржавамі накіраваны пакет дакументаў, які ў пачатку сакавіка падпісалі ў Менску першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка і віцэ-міністр культуры і мастацтва Польшчы Тадэуш Поляк. Дакументамі ў прыватнасці прадугледжана шэраг сумесных праектаў, адным з якіх стане адкрыццё Польскага інстытута культуры ў Менску і гэтакага ж Беларускага інстытута ў Варшаве. Сярод найбольш буйных сёлетніх акцый вылучаюцца майскія Дні культуры Беларусі ў Польшчы.

### Калегія энцыклапедыстаў

Пашыранае сумеснае пасяджэнне рэдакцыйных калегій 18-томнай *Беларускай энцыклапедыі* і *Энцыклапедыі гісторыі Беларусі* прайшло днямі ў аднайменным выдавецтве. У прафесіянальным шырокім абмеркаванні абодвух энцыклапедычных выданняў прынялі ўдзел вучоныя, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, мастакі. Гаворка ішла пра падрыхтоўку энцыклапедычных матэрыялаў, а таксама пра шляхі паляпшэння інфармацыйна-навуковай работы, якая актыўна вядзецца сёння ў выдавецтве.

### Дзень інтэгратара

У сувязі са стварэннем 2 красавіка 1996 г. Супольнасці Беларусі і Расеі, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўстанавіў сваім указам дзяржаўнае свята — Дзень яднання народаў Беларусі і Расеі, якое будзе адзначацца штогод 2 красавіка. Менскія студэнты новае лукашэнкаўскае свята назвалі Днём інтэгратара.

### Крыж у Расеі

Нацыянальную рэліквію Беларусі — крыж Еўфрасінні Полацкай, які бясследна знік у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, трэба шукаць у Расеі, — заявіў кіраўнік цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ Генадзь Сенюкоў. У пачатку 1941 г. культавыя каштоўнасці з усіх храмаў Беларусі былі звезены ў Магілёў і аддадзены на захаванне ў пакой-сейф абласнога камітэта кампартыі. Паводле адной з версій, з сейфа каштоўнасці былі эвакуіраваны ў Маскву і дастаўлены ва Упраўленне кадраў Чырвонай Арміі на Ленінскіх Гарах. Іх далейшы лёс невядомы. Сенюкоў мяркуе, што крыж захоўваецца ў запасніках дзяржаўнага Эрмітажа ў Пецярбугу ці ў музеях Уфы або Самары. Менавіта там у гады вайны былі вывезены архівы Магілёўскага абкама партыі.

# Прадаўжальнікі традыцыі

**Традыцыя жыве ў народзе, але калі яе не падтрымоўваць, прападае бясследна. Гэта таксама датычыць многіх традыцыйных прафесій, якія адыходзяць у нябыт з-за адсутнасці наследнікаў.**

Арлянская гміна славіцца многімі майстрамі па саломапляценні. Каб гэтае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва захавалася ў народзе, Гмінны асяродак культуры наладзіў для школьнай моладзі заняткі, на якіх вучні знаёмяцца з гэтым відам мастацтва, набываюць практычную ўмеласць пляцення розных вырабаў. Ініцыятарам гэтага мерапрыемства выступіла кіраўнік асяродка **Аліна Петручук**.

— Гмінны асяродак культуры праводзіць заняткі з 1995 года, — паведаміла яна. — Карыстаемся пры гэтым падтрымкай Міністэрства культуры і мастацтва, якое распрацавала праграму „Гінучыя прафесіі". Мы ўключыліся ў ажыццяўленне згаданай праграмы і для гэтай мэты атрымалі 2 тысячы зл. у 1995 і 3,5 тысячы ў 1996 гадах. У праграме ўдзельнічаюць народныя майстры з нашай гміны — **Уладзімір Цэтра** з Кашалёў, **Надзея Казачук** з Рудутаў, **Вольга Казачук**, **Анна Кубай** і **Уладзімір Палавянюк** з Міклашоў.

— Заняткі па пляценню вырабаў з саломы адбываліся ў асенне-зімовы перыяд, — расказваюць народныя ўмельцы, — у будынку школы ў рамках святлічных заняткаў, якія вядзе настаўніца **Міраслава Раманюк**. Дзеці моцна цікавяцца саломапляценнем і ахвотна займаюцца з намі. Падчас апошняга цыкла заняткаў быў аб'яўлены конкурс на найпрыгажэйшыя вырабы, у якім прыняло ўдзел трыццаць дзетак. Цешыць нас тое, што можам перадаць свой вопыт дзецям, а таксама і тое, што Гмінны асяродак культуры намерваецца працягваць такія курсы ў будучым.

— Супрацоўніцтва з народнымі мастакамі было магчымае дзякуючы Гміннаму асяродку культуры, — кажа настаўніца Міраслава Раманюк. — Кожны народны творца навучае дзяцей сваёй спецыяльнасці. Спачатку дзеці з насцярожанасцю ставіліся да гэтых заняткаў і трэба было іх пераконваць і заахвочваць. Цяпер такіх клопатаў ужо няма. Некаторыя дзеці так моцна цікавяцца гэтым відам мастацтва, што нават у перапынках заходзяць у нашу майстэрню крыху папрацаваць. Заняткі ў нас адбываліся да сакавіка, тры разы ў тыдзень, для дзяцей з усіх класаў. На заняткі прыходзілі дзеці, у якіх быў свабодны час паміж урокамі, або заставаліся яны пасля ўрокаў. Неўзабаве адбудзецца школьная выстава твораў дзіцячых рук, а найлепшыя работы і іх аўтары будуць узнагароджаны. Курсамі пляцення з саломы і іншых матэрыялаў цікавіцца штораз больш дзяцей і ўсе мы з нецярплівасцю будзем чакаць новага сезона.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Уладзімір Палавянюк, Аліна Петручук і Міраслава Раманюк з удзельнікамі заняткаў па саломапляценні.*

# „Дзе ён, скажыце, убачыў народ?"

*На сесіі Гарадской рады Бельска-Падляшскага, 5 сакавіка, бурмістр Андрэй Сцепанюк прачытаў адказ камендanta паліцыі ў справе мінулагодняга знішчэння капліцы каля паслякармеліцкага касцёла. Затым слова ўзяў старшыня рэвізійнай камісіі, радны з каталіцка-правага клуба „Jedność" Мірaслаў Талвінскі:*

*— Слядам прафанацыі прыглядаліся веруючыя палякі, якія тудою хадзілі ў касцёл. Хачу тут заявіць, што ніколі не будуць забыты ўчынкі супраць найвялікшых рэлігійных і нацыянальных святасцей. Гэта быў удар у пачуцце для кожнага паляка месца. Асабліва мы, палякі з усходніх земель Рэчы Паспалітай, добра разумеем наш доўг перад роднай зямлёй. І баліць нам, што ў нашым горадзе абражаюць Бога, абражаюць найдаражэйшыя пачуцці палякаў у час дзяржаўных і рэлігійных святаў. Папа Павел VI сказаў: „Сатана — гэта жывая істота"!*

*З рэплікай выступіў Аляксандр Божка з Беларускага камітэта:*

*— Пан Талвінскі сказаў гэтак так, што я, праваслаўны, павінен адчуваць сябе вінаватым. Навошта падаграваеце страсці? Я не дазволю паклёпнічаць на праваслаўных! Тым больш, што я з'яўляюся бельшчанінам з дзеда-прадзеда, а пан Талвінскі прыехаў сюды ўжо пасля вайны.*

*Старшыня рады Васіль Ляшчынскі не дазволіў працягваць дыскусію.*

*Тым часам, у польскім парламенце абмяркоўваецца, доўга і шумна, новая канстытуцыя. Адзін са спрэчных пунктаў, гэта запіс у прэамбуле, хто яе ўстанаўлівае. Ці: „мы, грамадзяне Польшчы", ці: „мы, Польскі Народ"?*

*Я разумею, што тэрмін „народ" у гэтым кантэксце абазначае народ палітычны, а не этнічны. Значыць — усіх грамадзян Рэчы Паспалітай, без падзелу на нацыянальнасць ці веравызнанне. Таму мне, асабіста, няма ніякай розніцы, які канчатковы варыянт запісу прымуць нашы парламентарыі.*

*Але наўрад, ці так сама разумее гэта радны Гарадской рады Бельска Міраслаў Талвінскі, які так пафасна прамаўляе ад імя „палякаў з усходніх земель Рэчы Паспалітай". Хутчэй за ўсё, у пачатку найважнейшага закона: „Мы, Польскі Народ" убачыць ён пацвярджэнне сваёй выключнай ролі на гэтай зямлі і пяршынства перад „іншапляменцамі".*

*Ды Бог з ім, з адным Талвінскім. Бяда ў тым, што так думае не толькі ён адзін. У вачах гэтых людзей тое, што Аляксандр Божка з'яўляецца „бельшчанінам з дзеда-прадзеда" можа аказацца замала, каб лічыць яго роўным. Не толькі, зрэшты, яго аднаго.*

**Мікола Ваўранюк**

# Арлянская звалка

На звалку ў Орлі папасці надта лёгка, бо ўзвышаецца яна над мястэчкам і відаць яе здалёк. Ад шашы вядзе да яе абсыпаная з абодвух бакоў смеццем дарога. Адтуль нясецца таксама невыносны смурод.

Звалку заснавалі яшчэ пры камуне. Размясцілі яе ў натуральнай упадзіне з гліністым грунтам, якая знаходзіцца на ўзгор'і побач Орлі. І такім парадаксальным чынам са звалкі можна любавацца панарамай мястэчка і шматколернасцю сялянскіх палеткаў.

Калі звалка перапоўнілася, бульдозер выраўняў усё і засыпаў зямлёю, а экскаватар выкапаў побач новую яму, у якую апрача смецця завозяцца цыстэрнамі фекаліі. Цяпер у гэтым месцы паўстала смярдзючае возера. Гэты своеасаблівы септык не мае адпаведнага забеспячэння і аж страх падумаць, што калі пойдзе праліўны дождж, усё змесціва гэтай „смярдзючкі" можа сплысці ўніз, на Орлю.

* * *

У суседнім ляску і крыху далей у напрамку Пашкоўшчыны ўжо трэці год ляжаць тры вялізныя глыбы застылага асфальту. Адзін кавалак скінулі з машыны проста ў кювет пры дарозе ў Кашалі.

* * *

Экалогіяй павінны цікавіцца мы ўсе, бо яна рэгулюе адносіны паміж жывымі арганізмамі і навакольным асяроддзем. Ва ўсёй Арлянскай гміне знаходзіцца толькі адна афіцыйная звалка, затое ў кожнай вёсцы, найчасцей у прыдарожных лясах і кустах, сустрэнеце мноства малых нелегальных звалак. Нямногія гаспадары маюць на сваіх панадворках сметнікі. Выкідаючы смецце на прыроду, ніхто не задумваецца над паслядоўнасцямі гэтага. Для іх важнае, каб толькі далей ад сябе.

**(іч)**

# Хвароба нашай цывілізацыі

Няма пэўна ніводнага куточка на зямлі, ніводнай установы ці прадпрыемства, дзе не гнездзіліся б гэтыя паразіты — прадажныя чыноўнікі.

Карупцыя з'яўляецца адной з паталагічных з'яў у нашым грамадстве. Яна быццам зараза ахоплівае ўсё больш і больш людзей. Можна сказаць, што гэта хвароба нашага стагоддзя, нашай цывілізацыі.

Як канстатаваў Караль Малцужыньскі, тэлежурналіст у адной са сваіх перадач з цыкла „Форум", хабары бяруць усе, каб толькі была нагода.

Няма зараз такой магчымасці, каб уладзіцца на работу без хабару. Ці то на дзяржаўнай установе, ці то ў прыватнага прадпрымальніка. Як не дасі ў „лапу", не лічы на паспяховае вырашэнне справы.

Нават у маёй мясціне бяруць больш двух тысяч за такую здзелку.

Каб атрымаць памяшканне ў цэнтры горада з прызначэннем на бізнэс-цэнтр, трэба палажыць чыноўніку канверт з адпаведным „дадаткам". Інакш дакументы не пападуць на аўкцыён. За паспяховае вырашэнне справы належыцца асобная плата.

Каб паступіць на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, трэба нарадзіцца пад шчаслівай зоркай, мець дзядзьку з шырокімі плячыма, або звітак „зялёных". Інакш не лічы на шчасце (а гаворыцца быццам бы кожнаму маладому вароты да навукі адчынены!).

Прадажнасць была добра вядомая ўжо пры камуне. Аднак крыху баяліся тыя хто даваў, і хто браў. Зараз ніхто нікога не баіцца і паводзяць сябе згодна з прымаўкай: Не гавары мне на вуха, да рукі „гавары".

І так працягваецца гэта крымінагенная з'ява. Вярхушка ўсё бачыць! Нічога не гаворыць, бо сама гэта робіць.

Ці ж не памятаем алкагольнай афёры, ці скандалу з папяросамі? Аб іх многа пісалася ў сродках масавай інфармацыі.

А выбарчая кампанія былога прэзідэнта Валэнсы? Адкуль браў грошы? Можна было б прывадзіць дзесяткі фактаў для прыкладу. Вось хоць бы гэты з майго панадворка.

Ужо больш трох гадоў вяду „барацьбу" са сваімі былымі начальнікамі на чыгунцы. Раней гаварылі, што хлуснёй займаюся, што ўсё гэта няпраўда, што пішу. Зараз прызнаюцца, што факты праўдзівыя. Аднак вінаўных працаўнікоў нельга пакараць, бо яны „на рабоце" не былі (чытай публікацыю ў „Ніве" „Без каментарыя" ад 17.11.1996 г.). І зноў хлусяць!

У сваёй чарговай заяве генеральнаму дырэктару ПКП паказаў я праўдзівыя факты. Бо, як можна зрабіць, даражэнькія, чалавека цвярозым, калі гэты ў сапраўднасці ў той час „дэнатам" быў.

Вядома, за грошы ўсё зрабіць можна! Нават у паліцыі знойдуцца прадажнікі. Такім пляваць на законы і на рэпутацыю! Як паказвае статыстыка, за мінулы год паступіла ў розныя дзяржаўныя ўстановы 6 600 заяў ад грамадзян на паліцыянтаў, у тым ліку пяць тысяч было апраўданымі скаргамі.

Як бачым, прыклад мною паказаны не быў адзінкавым фактам.

Такое ж самае можна сказаць аб лекарах. Прыкладаў хоць адбаўляй!

На маю думку, карупцыя сама па сабе не загіне. З ёю трэба змагацца. Толькі якім спосабам?

Ва ўспомненай мною тэлеперадачы „Форум", журналіст паставіў пытанне ўдзельнікам форуму і тэлеглядачам: „Як змагацца з карупцыяй: выхоўваць маральна ці караць?" Сярод удзельнікаў дыскусіі ацэнкі былі неадназначныя. Палітыкі, як заўсёды, абвінавачваліся ўзаемна. Тэлеглядачы рашуча выказаліся за пакараннем прадажнікаў (1942 галасы); толькі 111 асоб было за „маральным навучаннем".

Гэтая статыстыка паказвае, што ўжо цяпер адказныя чыноўнікі павінны ўзяцца за работу. Толькі ці паспеюць да выбараў. Дык няхай тэма прадажнасці застанецца актуальнай для новага ўрада.

**Уладзімір Сідарук**

# Вобраз вечнага левака

Гістарыяграфія наконт сучаснай палітычнай думкі беларусаў наогул ёсць згодная: рашуча дамінавалі ў ёй плыні левага накірунку. Большасць гісторыкаў, палітолагаў, публіцыстаў, якія пісалі пра палітычнае жыццё беларусаў у дваццатым стагоддзі, замацоўвалі схему, паводле якой эліты плебейскага паходжання, дзейнічаючы згодна з патрэбамі свайго асяроддзя, фармулявалі праграмы, у якіх на першы план ставіліся сацыяльныя праблемы. Справы нацыянальнага, культурнага ці палітычнага характару займалі там маргінальнае месца. Літаратура доўгімі гадамі стварала вобраз беларуса як вечнага пакутніка, няўдачніка, разжаленага над сваім лёсам, у пакорных позах шукаючага зразумення акружаючага яго свету. Апагею гэтага інтэлектуальнага самапрыніжэння дасягнуў наш знакаміты паэт Янка Купала ў вершы „А хто там ідзе?". У той час, калі інтэлектуалы іншых еўрапейскіх народаў прабавалі прысвоіць сваім суродзічам прыкметы звышчалавечнасці, Купала ў двух словах сфармуляваў маніфест беларусаў на дваццатае стагоддзе: „людзьмі звацца". І так ужо асталося. Роспачны крык тых, якія пераконвалі, што з'яўляемся не толькі людзьмі, але таксама народам з вялікай гісторыяй і культурнай спадчынай, гінуў у моры абыякавасці адурманенага люду і за мурамі акупацыйных турмаў.

Тым часам, калі ўважліва пераанапізаваць усе фактары, якія паўплывалі на фарміраванне палітычнай думкі беларусаў, аказваецца, што яе пачынальнікамі былі людзі не плебейскага паходжання, але наадварот — найчасцей панскага. Яны таксама патрабавалі вялікай самаадукацыі, каб перасячы межы міфалогіі, створанай палякамі ці расейцамі. Найчасцей стваральнікі беларускай нацыянальнай ці палітычнай думкі выступалі супраць ідэй сваіх апалячаных ці русіфікаваных продкаў. Першую беларускую палітычную партыю, якая хаця і называлася „рэвалюцыйнай", стварылі людзі, якіх паходжанне зусім не прадвызначала іх да ролі левакоў. Антон і Іван Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Аляксандр Бурбіс, Алаіза Пашкевіч ці Францішак Умястоўскі больш чакалі рэвалюцыі нацыянальнага характару, але былі рэалістамі і ведалі, што каб прабудзіць якуюнебудзь свядомасць, у існуючых умовах трэба было карыстацца перш за ўсё лозунгамі сацыяльнага характару.

Калі чытаецца некаторыя працы Антона Луцкевіча з пачатку нашага стагоддзя, можна часам аднесці ўражанне, што пісаў іх нейкі таварыш славутага Ульянава. Сацыяльны радыкалізм беларускай інтэлігенцыі хутчэй за ўсё быў сродкам актывізацыі сялянства, чым элементам нейкай ідэалогіі. У Беларусі большасць памешчыцкіх фальваркаў знаходзілася ў руках палякаў і расейцаў, галоўных канкурэнтаў у змаганні за душы насельніцтва. Да рэчы, Пілсудскі, як адзін з кіраўнікоў сацыялістычнай партыі, таксама пісаў усялякія лявацкія лозунгі і адозвы. У рэчаіснасці, як аказалася, сацыялізм служыў яму толькі інструментам і пакінуў яго калі толькі прыйшла свабода для Польшчы. Левакі валодалі вельмі прывабнымі лозунгамі для люду. Паказвалі простыя вырашэнні невырашальных праблем, а пры нагодзе гурtавалі вакол прыгожых ідэй вялікія масы насельніцтва. Ведалі пра гэта і беларускія адраджэнцы, тым больш, што няглядзячы на тое, ці ў 1905 годзе падзелу памешчыцкай зямлі дамагаліся дзеячы Беларускай сацыялістычнай грамады, ці ў 1930 г. дзеячы Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, усведамлялі яны той факт, што змагацца за зямлю для беларускага сяляніна трэба. Маёмасць гэтая не была ў руках беларусаў. Успомненая Беларуская хрысціянская дэмакратыя не без рацыі называлася польскімі палітыкамі партыяй левага накірунку. Ва ўмовах зняволення Беларусі і адначасова сацыяльнага прыгнёту беларускага насельніцтва, як бы натуральнай у праграме цэнтрысцкіх і нацыяналістычных беларускіх арганізацый была прапанова канструкцыі грамадскага і эканамічнага парадку паводле сацыялістычных прынцыпаў.


*Абвяшчэнне перайманне ўлады Народным сакратарыятам Беларусі 21 лютага 1918 г. у Мінску. Дом Беларускай Рады (б. Дом губернатара) на пляцы Волі (даўней Саборным).*

На пачатку XX стагоддзя шмат чаго спалучала дзеячаў Беларускай сацыялістычнай грамады і Польскай сацыялістычнай партыі. Аднак гэтыя актывісты „інтэрнацыяналістычнага руху", прадстаўляючы інтарэсы двух народаў, у ніякі спосаб не маглі дагаварыцца ў канкрэтных справах, важных для лёсаў кожнай нацыі. Калі, напрыклад, беларускія сацыялісты выказваліся за тое, каб вялікую зямельную ўласнасць падзяліць і аддаць сялянам, польскія сацыялісты былі супраць, хаця дамагаліся такіх вырашэнняў для цэнтральных раёнаў Польшчы. У Беларусі такая рэформа абазначала б, што зямлю трэба было б забраць палякам і аддаць беларусам.

Кароткі перыяд першай сусветнай вайны стварыў умовы для беспераш-коднага развіцця беларускай палітычнай думкі. За некалькі гадоў узніклі арганізацыйныя структуры і нарадзілася ідэя беларускай дзяржаўнасці, пабудаванай на дэмакратычных прынцыпах, дазваляючых усім народам, веравызнанням, партыям і арганізацыям прымаць удзел у грамадскім жыцці на роўных правах. 25 сакавіка 1918 года прадстаўнікі беларускага народа аб'явілі волю жыць у сваёй дзяржаве. Аднак імперыялісты з усходу і захаду на гэта не дазволілі. Пасля кароткай каланіяльнай вайны палякі і бальшавікі дайшлі да згоды і падзялілі паміж сябе тэрыторыю Беларусі. Але нават сямідзесяцігадовая дэмаралізацыя беларускага насельніцтва не выкаранила да канца волю свабоды і самастойнасці. На пачатку дзевяностых гадоў пачалі ўзнікаць у Беларусі палітычныя плыні ўсялякіх накірункаў, а за самастойную дзяржаўнасць, нават у найбольш неспрыяльных умовах, заўсёды галасавала звыш дваццаці працэнтаў насельніцтва. Усё паказвае, што калі б гэты працэс прадаўжаўся, Беларусь была б сёння нармальнай дэмакратычнай дзяржавай. Аднак тыя, што ўсё яшчэ мараць, каб „людзьмі звацца", зрабілі з яе пасмешышча Еўропы.

**Яўген Міранавіч**

# Маладая Беларусь у „Kartkach"

Вытворчы працэс літаратурна-мастацкага часопіса „Kartki", прысвечанага ў сваім першым у 1997 г. выпуску беларускай літаратуры, шмат у чым нагадаў мне вытворчасць студэнцкіх „Сустрэч". Ідэя прэзентацыі сярэднемаладой беларускай літаратуры польскаму чытачу прадзяблася ў час неафіцыйных (кавярняных) сустрэч рэдактара „Kartek" Багдана Дудко (на здымку) з арганізатарамі польска-беларускага семінара „Бязмежжа". Кавярнянасць гэтая — адсутнасць рэдактарскага стала і строгай прэмедытацыі — была вытрымана да самых апошніх акордаў усяго мерапрыемства. Агульны гэты прынцып, які дзесяць гадоў таму выдатна спрацоўваў, цяпершнім часам не дазволіў аднак правесці як след мерапрыемства ва ўсіх яго камерцыйных аспектах.

Нумар „Kartek" атрымаўся салідным і здавальняючым эстэтычна ў сваім агульным выглядзе. На думку філосафа Ігара Бабкова з Менска — можа і занадта эстэтычным. Гэты часопіс, паводле яго, можна пералістаць (*przekartkować*) і атрымаць сваё задавальненне, не чытаючы тэксту. Кожны можа тут мець сваю думку, хоць, у маім адчуванні, няма якойсьці агульнай рэцэптуры: як заахвоціць (ці знеахвоціць) да чытання, таму і не лічу я ўпадабання Б. Дудко да аздобы ў выглядзе фоткаў і графік як загану. „Kartki" такі ўжо выпрацавалі сабе стыль і паслядоўна яго вытрымліваюць.

У „Kartkach" польскаму чытачу прапануецца выбар сярэднемаладой беларускай літаратуры (30- і 40-годкі), а таксама агляд важнейшых культурных з'яваў па той і гэты бок мяжы. Порцыя гэта ў сутыку са станам веды польскага чытача пра Беларусь выявіла адну акалічнасць — веда гэтая нулявая. На прамацыйнай імпрэзе 6 сакавіка г.г. у Ваяводскай публічнай бібліятэцы ў Беластоку ніякай дыскусіі не атрымалася. Магчымасць гэтую арганізатары загадзя сур'ёзна ўзялі пад увагу. Не хапіла аднак канчатковай прэмедытацыі — спатрэбіўся б тут нейкі даклад-уводзіны, нешта абсалютна аснoўнае, нейкія азы пра беларускую літаратуру, яе кантэкст і падтэкст. А чагосьці такога, на жаль, не аказалася. Зацікаўленасць тэмай, меў я такое ўражанне, перамахнула спадзяванне саміх арганізатараў — цэлая зала бібліятэкі дакладна запоўнілася. Выступіў у ёй, між іншым, Ігар Бабкоў, прывёўшы сабраным дзве метафары ў дачыненні да беларускай літаратуры — фрагменты і сон. У якой ступені гэтыя метафары былі ўспрыняты слухачамі — цяжка сказаць.



Прыгадваю сабе, што ў гады павышанай студэнцкай актыўнасці ў беларускім асяроддзі на ўсякія мерапрыемствы запрошваўся Сакрат Яновіч. Яго даклады — ні то пра літаратуру, ні то пра гісторыю, ні то пра яшчэ нешта іншае — мелі той, можна сказаць, азбучны падтэкст. Яновіч, аднак, вучыў самiх беларусаў іхняй азбукі. А тутака трэба было навучыць палякаў — даць ім азбуку беларушчыны. На жаль, на жаль...

Значна лепш пайшло, калі пачалася наступная частка прамоцыі — акустычны канцэрт „Новага Неба". Арганізатары, адным словам, пацэлілі ў дзесятку. Рэпертуар Касі Камоцкай вызначаецца выдатным паэтычным густам і, да гэтага ж, выконвае яна песні на словы тых аўтараў, якія прэзентуюцца ў „Kartkach". Затым пайшлі канцэрты (ужо электрычныя) у клубе „Metro", дзе яшчэ раз выступіла „Новае Неба", гурт „Buffo" і „Брага". Для „Брагі" часопіс адвёў некалькі старонак, на якіх змешчаны фатаграфіі з канцэртаў і тэксты песень у лацінічным арыгінале. З даведкі пра гурт вынікае, што не застаўся ў ім ніхто з заснавальнікаў фармацыі, а з тэкстаў — зацікаўленасць і заклапочанасць тэматыкай беларускага лёсу ва ўмовах горада.

Што б ні казаць пра саму прамоцыю „Kartek" — слабыя і моцныя яе бакі, — то выпуск гэты праклаў сапраўдны мост паміж маладымі творцамі тут і там. Можна спадзявацца, што недахоп ведаў пра літаратурны працэс у Беларусі ўраўнаважыцца ў некаторай ступені серыяй эсэ, якая адчыняе часопіс, а набор змешчаных у ім перакладаў — кіне святло польскаму чытачу на інтэлектуальны воблік Беларусі. Рэдактар „Kartek" Б. Дудко абяцаў, што беларуская літаратура ў часопісе будзе мець свой працяг.

**Аляксандр Максімюк**

*Фота Ганны Кандрацюк*

# Віншаванні з антыподаў

**Вельмі Шаноўны Сп. Рэдактар!**

Віншуем Вас, Вашых Супрацоўнікаў і ўсіх Вашых Чытачоў з 79-мі Угодкамі Векапомнага Акту 25-га Сакавіка 1918 г., калі беларускі народ скінуў ярмо маскоўскай няволі і абвясціў Дзяржаўную Незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі з дэмакратычнай сістэмай кіравання...

Не маючы дастатковай колькасці сваёй нацыянальнай узброенай сілы, Урад БНР быў пераможаны ворагамі і быў змушаны выехаць за мяжу — аднак Акт 25-га Сакавіка і нават замежная дзейнасць Урада БНР змусілі акупантаў пайсці на ўступкі беларускаму народу які, нягледзячы на жудасныя здзекі і рэпрэсіі ды мільённыя фізічныя страты, ніколі не перастаў змагацца за сваё вызваленне і заўсёды верыў у сваю перамогу над ворагам — доказам чаго і ёсць цяперашняя, усім светам прызнаная, Рэспубліка Беларусь...

Падзеі апошніх гадоў аднак паказалі, што ворагі ўсё яшчэ дрэмлюць аб сваім панаванні над беларускім народам і таксама, што пагроза знішчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь усё яшчэ існуе і нават узрастае — асабліва бяручы пад увагу, што пераважная бальшыня галоўных урадавых пасад у Рэспубліцы Беларусь, уключаючы пасаду Прэзідэнта краіны, ёсць заняты цяпер небеларусамі ды людзьмі, якія хварэюць на вельмі небяспечную, і даводзячую чалавека да стану здрадніка хваробу Псіхалогіі Рабства і якія намагаюцца ізноў увапхнуць Рэспубліку Беларусь у новую форму Расейскай Імперыі...

З гэтымі адкрытымі і закрытымі ворагамі трэба катэгарычна змагацца і забяспечыць, каб незалежная Рэспубліка Беларусь заўсёды жыла, на пацеху і карысць усім сваім будучым пакаленням...

Вечная Слава Творцам Акту 25-га Сакавіка!!!

Няхай Жыве Незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

**Алесь Алехнік**
**Генеральны Сакратар**
**Беларускага Аб'яднання ў Аўстраліі**

# Рыхтаваўся да залатога вяселля

**Андрэю ТУРКОЎСКАМУ з вёскі Сакі, Нарваўскае гміны, 95 гадоў. Вочы ўжо ледзь бачаць нават праз тоўстыя акуляры, слабавата чуе, але пераважна помніць да найменшых драбніц. У куфэрку захоўвае падзякі з выявай Сталіна за пераможныя баі з немцамі. Сярод медалёў ёсць: „За отвагу", „Взятие Берлина" і „Наше дело правое, мы победим" (побач вусатага профілю). У Савецкую Армію трапіў ён у Прусіі, куды быў вывезены на прымусовыя работы.**

У ліпені 1942 года прыйшоў загад явіцца ў Міхалова ў гміну на восем гадзін. Мы зайшлі чуць пазней. Там пабапал брамы стаялі шуцманы палякі — Лялік і Лёлік — і лупілі нас палкамі. Я дастаў адно пару разоў, бо хутка прабег, але Плягу з Трасцянкі — непаваротлівы такі быў — то добра змалацілі. А Касая Гандзя з Гароднік страшэнна вішчала, як яе на кухні білі.

Пасадзілі нас на грузавікі і павезлі пад кулямётамі ў Беласток. Там памылі ў лазні, загрузілі на поезд і завезлі ў Ольштын, у арбайтсамт. Маладых разабралі ў першы дзень, а нас, шэсць старэйшых чалавек, завялі начаваць нармальна ва ўборную — на падлозе пару сантыметраў сікаў, а кал ляжаў нават на нарах.

Трапіў я да гаспадара, у якога прарабіў пяць з паловай месяца. Але нямецкая армія на ўсходзе ўсё радзела, то Гітлер мабілізацыю за мабілізацыяй праводзіў. Не было каму працаваць на фабрыках. Мяне перавезлі ў паровы тартак на Гагенштайнерштрасэ ў Ольштыне, уласнік якога называўся Брозэ. Працаваў я там два гады.

Зімою 1945 прыйшлі саветы. Французаў, палякаў пусцілі, а беларусаў, рускіх, украінцаў сагналі, білі за *измену родине*. Некаторых расстралялі. Я трапіў у штрафны батальён. Далі нам у рукі вінтоўкі, завялі ў лес, на кусце развесілі мапу: *вось тут мы, а тут немцы, дабяжыце і прыкладамі іх*. Як тыя немцы далі па нас з бункераў, то на 88 чалавек толькі пяць ацалелі, бо ў роў упалі. Астатнія ніхто не падняўся, раненых не было.

Пасля гэтага трапіў я ў нармальны полк, у 348 дывізію. Быў кулямётчыкам, падаваў патроны, але ўмеў і прыцэліцца, на выпадак смерці наводчыка (аднойчы спатрэбілася). Фарсіраваў Одру, браў Берлін, віну перад радзімай, як казалі, змыў крывёй, бо быў ранены ў нагу.

Вайна для мяне скончылася на Эльбе, куды мы гналіся за ўцекачамі з Берліна. Прарваліся адтуль мяснікі і пекары з тлустымі задамі, а нас выслалі даганяць. Узялі мы іх у палон і пагналі на ўсход, вось такі і быў канец вайны.

А той адыход на ўсход — адны пакуты. Ішлі мы паходам, хлеба ані грама, каласы на полі рвалі, елі сушаную бульбу, якую ў немца пабралі. Пуці сарваныя, то нічога нам не давозілі. Але што ж можна было падасласць з савецкіх калгасаў? Ішлі мы абдзёртыя, бо ў немца многа калючых дратоў было, без плана, сто вёрст у адзін бок, потым назад. І так аж да Віцебска. Затрымаліся дзесьці ў лесе, між Лепелем і Барысавам.

Вярнуўся я дадому 18 лістапада 1945 года. У хаце зняў шапку, стаў на калені і падзякаваў Богу за вяртанне. А там ужо суседзі жылі. Мая жонка з дзвюма дочкамі паехала ў Расею і ў нашай хаце стаў жыць Камароў Юзік з сям'ёй. Ён мне кажа: „Ты, Андрэй, не знойдзеш на мяне права, хоць да міністра дойдзеш, бо твая жонка здала ўсё ў скарб дзяржавы". Я перазімаваў у брата Мікалая і жыў у яго аж да жытняга жніва. А жонка, ад'язджаючы, пакінула аднаму пасевы і той чалавек аддаў мне іх частку. А мне не было куды сыпаць гэтае збожжа. Да міністра я не пайшоў, адно на пастарунак у Нарву. Камендантам быў беларус, Паскробка з Гайдукоўшчыны, а войтам Нікановіч, які перад вайною ў Картуз-Бярозе сядзеў. Яны далі загад Юзіку пакінуць маю хату за суткі. Жыў ён у ёй, праўда, яшчэ з тыдзень, а калі выбраўся, то нават падлогі пазрываў.



*Андрэй Туркоўскі як жаўнер 61 Вялікапольскага палка ў Быдгашчы, дзе служыў у 1923-24 гг.*

Так я зноў пачаў жыць на гэтым месцы, адзін як палец. За жонкай не паехаў, бо я бачыў Савецкі Саюз і калгасы, у якіх усё гніе. (Памерла яна пару гадоў таму ў Сібіры, адна дачка наведала мяне раз, другая — утапілася дзесь там.)

Вёска запрапанавала мне вучыць дзяцей. У мяне была няпоўная сярэдняя адукацыя, яшчэ з царскай школы. Але я вельмі любіў чытаць, нават жывёлу пасвіў з кніжкай. Адна кніжка са мною была ў Берліне і пад Віцебскам, і дадому я яе прывёз, хаця па дарозе павыкідаў лісы — за такі адзін каўнер дзве каровы можна было купіць. Я вучыў у сваёй хаце, бо немцы школу ў вёсцы спалілі. За вялікі стол пасадзіў усе дваццаць дзетак, усе тры аддзелы. За кожнае дзіця плацілі мне пуд жыта і па чарзе кармілі.

З Маняй мы пажаніліся, бо бацька яе так абдумаў. Ейнага мужа немцы забілі, як ішоў ноччу за клунямі. Яна з маленькім сынам пераехала жыць да бацькоў у Трасцянку. Я то сам нават не адважыўся б паехаць да яе ў сваты. Ёй было 30 гадоў, а мне — 46. І бядняк жа я быў апошні. Але зышліся, Бог даў, нарадзілася ў нас дачка Оля і пражылі мы разам 48 гадоў. Я думаў, хутка адсвяткуем залатое вяселле, а тут Маня памерла на Каляду (плача). Ой лепш бы мне было маю Маню не ўспамінаць... не магу, у грудзях штось душыць...

**Запісаў Мікола Ваўранюк**

# Польская беларусіяна

Як вядома, пасля распаду Савецкага Саюза ды ўзнікнення на гэтым месцы новых дзяржаў, у тым ліку Беларусі, сям-там у польскіх універсітэтах з'явілася непасрэднае зацікаўленне яе гісторыяй і жаданне вывучаць таксама і беларускую філалогію. Аднак гэта здаровае памкненне адразу выявіла не толькі непадрыхтаванасць ці звычайную адсутнасць навуковых кадраў у вышэйшых навучальных установах, але і ганебную занядбанасць наогул польскіх славістаў у беларусазнаўстве, страшэнныя прагалы па беларускай мастацкай літаратуры ў бібліятэках, поўны брак папулярна-даведачных кніг пра Беларусь, не гаворачы пра бачную простым вокам нястачу універсітэцкіх найрознах падручнікаў і дапаможнікаў.

І тым не менш ёсць, як сказана, сям-там крыху не зусім яшчэ астуджаных нашымі варункамі энтузіястаў беларускай мовы, культуры, гісторыі. Што і гаварыць, хто можа, павінен падтрымаць гэты ўздым...

З думкаю ў першую чаргу менавіта аб студэнтах, якія хочуць вывучаць беларускую філалогію, плёна працуе ў апошніх гадах прафесар Тэлесфар Позьняк у Вроцлаве. Яшчэ ў 1989 годзе выйшаў у фундаментальным шматтомным навуковым выданні *Dzieje literatur europejskich pod redakcją Władysława Floryana* ягоны *Zarys historii literatury białoruskiej* (гл. том III)[1]. Праўда, нарыс гэты, напісаны аўтарам у папярэдняй эпосе, а надрукаваны ў момант яе сконy, што раптоўна і празмерна агаліла супярэчнасці (або недарэчнасці) аксіялагічнага парадку, выклікаў у Мінску празмерна адмоўную, не цалкам гістарычна абгрунтаваную і тэарэтычна аргументаваную рэцэнзію на старонках „Літаратуры і мастацтва". У 1993 годзе універсітэцкае выдавецтва ў Вроцлаве выпусціла ў свет падрыхтаваную зноў жа прафесарам Т. Позьнякам *Antologię literatury białoruskiej od XIX do początku XX wieku*. І вось зараз, на пачатку 1997 года, як лагічнае прадаўжэнне папярэдняй кнігі, з'явілася ягоная *Antologia poezji białoruskiej XX wieku* — з паэтычнымі тэкстамі ў арыгінале, што мае выключна дадатнае значэнне ў рэцэпцыі паэзіі.

Але не гэтыя тэксты ўсё-такі, як трэба меркаваць, а прозвішчы выдатных паэтаў, паводле ўкладальніка *Анталогіі*, ствараюць перыяды ў развіцці беларускага пісьменства. Праф. Т. Позьняк выдзяляе чатыры такія перыяды:

1. Паэзія 1918—1920 гадоў,
2. Паэзія 1920—1928 гадоў,
3. Паэзія 1928—1956 гадоў,
4. Паэзія пасля 1956 года.

Апрача таго ён вылучае, як асобныя кругі развіцця, паэзію заходнебеларускую, паэзію беларускай эміграцыі і беларускую паэзію Беласточчыны.

Гэтакім чынам аўтар *Анталогіі* дае магчымасць чытачу ўявіць поўную і адзіную прастору беларускай паэзіі XX стагоддзя, якая ў сваіх паасобных прадстаўніках геніяльна выказвала духа нацыі, дасягнуўшую вяршынь паэтычнага майстэрства.

*Анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя* Т. Позьняка — аўтарская кніга, у якой да голасу дапускаюцца суб'ектыўныя гістарычна-літаратурныя погляды ды эстэтычныя сімпатыі і схільнасці. Яны аднак дынамізуюць і асвяжаюць успрыняцце *Анталогіі*, заахвочваюць да ўласных далейшых пошукаў для таго ці іншага творцы найбольш характэрных ім тэкстаў.

І аднак жа пры ўсёй глыбокай пашане аўтарскага права на свой падыход да з'яў беларускай паэзіі XX стагоддзя, хацелася б выказаць шкадаванне, што ў гэтай надта патрэбнай кнізе не знайшлося месца для такіх выдатных паэтаў, як Яўгенія Пфляўмбаўм і Еўдакія Лось, Янка Сіпакоў, Васіль Зуёнак і Алесь Наўроцкі, Ніна Мацяш, Леанід Галубовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Раіса Баравікова, Анатоль Сыс, а таксама Надзея Артымовіч. А што зрабіць з Максімам Танкам? Ён выйшаў напэўна па-за заходнебеларускую паэзію. Не месяцца сваёй творчасцю ў 1918—1920 гадах ні Купала, ні Колас. А Хведар Ільяшэвіч — паэт эміграцыйны ці, аднак, заходнебеларускі?! А дзе сонейка беларускай паэзіі, Максім Багдановіч? Так, ён памёр у 1917, але ж ягоная творчасць уся належыць XX стагоддзю. Невыпадкова М. Багдановіч, першы і адзіны ў новабеларускай літаратуры паэт удастоены *Поўным зборам твораў* (у трох тамах, Мінск 1992—1995).

Гэтыя ды іншыя пытанні да аўтара *Анталогіі* — непазбежныя. Але яны ўзнікаюць таксама, як пры сустрэчы з разумным чалавекам нам хочацца ад яго як мага больш даведацца цікавага і новага.

**Ян Чыквін**

Telesfor Poźniak, *Antologia poezji białoruskiej XX wieku*, Wrocław 1997, Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, ss. 220. (Sprzedaż wysyłkową prowadzi Dział Marketingu Wydawnictwa Uniwersytetu Wrocławskiego, 50—137 Wrocław, pl. Uniwersytecki 9/13.)

[1] Гл. таксама артыкул Тэлесфара Позьняка *Literatura białoruska i „Zona" (o doświadczeniu łagrowym poezji białoruskiej XX wieku)* [w:] „Studia Litteraria Polono-Slavica" 2, SOW, Warszawa 1996.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Беларуская Народная Рэспубліка



У жніўні 1914 года пачалася I сусветная вайна, якая прынесла дзесяткі мільёнаў ахвяр і прывяла да руіны большасць краін Еўропы. Тагачасныя імперыі — Расія, Нямеччына, Англія, Аўстрыя, Францыя — пачалі змаганне за новы падзел свету. У 1916 годзе да гэтай вайны далучыліся Злучаныя Штаты Амерыкі. Мільёны маладых людзей загналі ў акопы. Каля чатырохсот тысяч беларусаў змагалася ў радах расейскай арміі. Кожнага дня некалькі тысяч нашых продкаў гінула за чужыя інтарэсы. У 1915 годзе тэрыторыю Беларусі заняла нямецкая армія. Два мільёны нашых суродзічаў, уцякаючы перад немцамі, пакінула свае землі і рушыла ў „бежанства", у глыбіню Расіі. Немцы тым часам дазволілі беларусам адкрываць свае школы, тэатры, арганізаваць культурнае жыццё, друкаваць кніжкі і газеты на роднай мове, аб'ядноўвацца ў радах усялякіх арганізацый. Пасля некалькіх соцень гадоў нахабнай паланізацыі і русіфікацыі Беларусь пачынала нанава быць краінай беларусаў.

Вайна прывяла да паслаблення расейскай і нямецкай імперый. Прыгнечаныя імі народы дамагаліся свабоды і права самастойна вырашаць аб сваім лёсе. Свабоды чакалі таксама беларусы. 18 снежня 1917 года пачаўся ў Менску Першы Усебеларускі кангрэс. 1872 дэлегаты з усіх куткоў Беларусі выразшылі ўступіць на шлях стварэння незалежнай беларускай дзяржаўнасці. У тым часе Менск быў пад кантролем расейскай рэвалюцыйнай арміі. Бальшавікі, якія кіравалі Расіяй, хацелі мець Беларусь у межах сваёй імперыі. Пры дапамозе чырвонаармейцаў прабавалі яны затрымаць працэс стварэння беларускай дзяржавы. Усебеларускі кангрэс паспеў аднак выбраць Раду, якая была як бы першым сучасным беларускім парламентам. **25 сакавіка 1918 года Рада аб'явіла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.** Былі вернуты таксама старажытныя сімвалы Беларусі — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг.

25 сакавіка адзначаецца беларусамі ва ўсім свеце як нацыянальнае свята.

Ала Канапелька

# Лотаць

Скача жабка па балоце,
у букет збірае лотаць.
Што за дзіва, што за цуд —
па куп'і і там, і тут
ззяе лотаць залатая,
ад яе наўкол світае!

Жабка ўстала пасля сну
і патрапіла ў вясну.
І здзіўляецца бясконца:
„Што ні кветка — то і сонца!
Я ў букет іх сабяру,
сваёй маме падару!"

# Палічна — цікавая вёска

Палічна — гэта невялікая вёска на Падляшшы. Назва вёскі, як сказаў адзін з яе жыхароў, паходзіць ад слова „паляна". Калісьці быў тут толькі лес. Аднойчы прыбыў сюды чалавек і вырубаў некалькі дрэў. Так і зрабілася паляна. Пазней далучыліся і іншыя людзі, і вёска разрасталася.

Цяперашняя вёска налічвае да 100 сядзіб, з якіх толькі 10 яшчэ гаспадарыць. Моладзь „уцякае" ў гарады і няма каму памагаць (выручыць старых бацькоў). Многія палі ляжаць аблогам. Тутэйшыя людзі жывуць з лесу, сельскай гаспадаркі і пенсіяў. Як сказаў адзін з жыхароў вёскі: „Хаця вельмі цяжка, але неяк жывем".

У Палічнай пераважаюць дзеравяныя хаты, хоць сустракаем і мураваныя. Я заўважыла, што ў Палічнай ужо многа апусцелых дамоў. Амаль на кожным панадворку можна пабачыць жоравы — гэта такія прылады для чэрпання вады з калодзежа. Апошнім часам часта заязджаюць „рускія" і прапануюць мясцовым жыхарам свае тавары.

Палічна мае цікавыя легенды. Адзін з жыхароў Палічнай расказаў, што калісьці, у час I сусветнай вайны, калі цар гнаў палякаў, адступаючыя закапалі ў Палічнай золата. Як сказаў гэты чалавек, людзі, калі пачулі легенду, зразу і пачалі шукаць гэтага золата. Праўдападобна некалькі гадоў назад некаму пашчасцілася. Але хто знайшоў легендарнае золата, у якім месцы — ніхто не ведае.

Палічна — гэта вельмі цікавая вёска. Нельга ўсяго апісаць у адным рэпартажы. Адно толькі магу сказаць: хаця Палічна не багатая, дык заўсёды яе крамы запоўнены кавалерамі, якія глытаюць тут піўцо. А старых кавалераў у Палічнай — як нідзе многа.

**Бажэна Леанюк, вуч. VIII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных**

*(Рэпартаж узнік пасля VI Сустрэч „Зоркі")*



*Яшчэ нядаўна ў Палічнай была школа. На здымку дзяўчаты з чацвёртага класа разам з настаўніцай Ірэнай Тамашук. Зараз нашы сябры вучацца ў Кляшчэлях.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 12

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Wieś / Piach | | Nogi / Smutek | | Kino |
| | | | | |
| Łąki / Komin | | | | |
| | | | | |
| Podarunek | Dusza | Amur | Niewolnik | |
| Numer | | | | Rak |
| | | | | |
| Ciężkie palto / Budka | | | | |
| | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 8: **Сустрэчы.**

Узнагароды — **аўтаручкі** — выйгралі: **Івона Леанюк** з Бельска-Падляшскага, **Рыгор Кандратовіч** з Гарадка, **Губерт Гайдучэня** з Гарадка, **Анеля Бобер** з Міклашоў, **Ева Зубрыцкая** з Нарвы, **Малгажата Калішук** з Махнатага, **Кася Леанюк** з Гайнаўкі і **Кася Круталь** з Махнатага.

Талон „Зоркі" № 12
23.03.1997



*Вучні з Крывой.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Дзяцінства майго дзеда

Мой дзед Міхал, калі быў малы, дык пасвіў коней. Гнаў ён коней на пашу ў чатыры гадзіны раніцы і пасвіў іх да абеду, а пад вечар гнаў яшчэ раз і пасвіў да змяркання. У шэсць гадоў ён ужо араў поле разам з братам Юзікам, збіраў сена і садзіў бульбу. Не меў часу гуляць з сябрамі, бо бацьку трэба было дапамагаць. Астаўся ён паўсіратою ў два гады свайго жыцця. У час вайны яго бацька з меншымі дзецьмі, каб не загінуць ад немцаў, выехаў з Орлі ў Тафілаўцы. Дзед мой у той час сам займаўся гаспадаркай.

Пасля вайны, калі памёр дзедаў тата, то ён мусіў са сваёй сястрой Любай апекавацца меншымі братамі і сястрой. Было ім вельмі цяжка.

**Сільвія ШЫМАНСКАЯ**
**з Орлі**

# Хто нішчыць нашу спадчыну?

„І падумаць толькі, што можа перажыць просты чалавек”, — сцвердзіў я пасля сустрэчы з гаспадаром з Войнаўкі, старым, вясковым дзядзькам. Быў ён у бежанстве, перажыў дзве сусветныя войны. На руках у дзядзькі асталіся сляды пасля цяжкай, сялянскай працы. Часам думаюць людзі: „О, багаты гаспадар. Ён пэўна шчаслівы!” Тым часам гэты чалавек не бачыць паза сваёй гаспадаркай свету. Адно праца і праца. Я заўважыў, што дасведчаны цяжкім жыццём гаспадар вельмі ветліва з намі, дзяцьмі, гаварыў. Ці не жыццё яго гэтага навучыла? Культура і людзі ідуць не заўсёды ў пары.

Большасць людзей не ўмее цаніць спадчыну свайго народа. Мы часта чуем, што недзе зноў разбурылі намагільныя крыжы. Я сам меў нагоду пабачыць такое. У мяне ўзнікла пытанне: Чаму ў нас ніхто не дбае пра помнікі, скарбы беларускай культуры? І чаму іх разбураюць маладыя людзі? Бо сказаць такое пра чалавека старога, дасведчанага, немагчыма. Дзядзька, якога сустрэў я ў Войнаўцы, ніколі б не падумаў пра такі ўчынак.

**Андрэй ТАРАНТА**
**вуч. VI класа ПШ № 3**
**у Бельску-Падляшскім**

# Вершы Віктара Шведа

### Шэкспір

Запытаўся Славамір
Свайго сябра Жэню:
— Ці калі б сёння жыў Шэкспір,
Свет быў бы ў захапленні?

— Вядома, быў бы свет ізноў
У захапленні шчырым.
Бо за чатырыста гадоў
Сёння было б Шэкспіру.

### Знайшоў выхад

— Надзвычай неслухмяны ты сынок,
Цябе выхоўваць я не маю сілы.
Гультай ты, лодар, невук, абібок,
Шкада каб і зямля такіх насіла.

— Калі такім нядобрым я сынком,
Калі цябе выводжу я з цярпення,
Тады я, тата, стану мараком,
З зямлёю мець не буду дачынення.

### Выхаваны дасканала

— Пазнаеш смак маёй рукі,
Калі ты пойдзеш зноў да Вані.
Ён жа разбэшчаны такі,
Ён жа зусім без выхавання.

— Калі ты ўпаў у гэткі гнеў,
Калі ты ў злосці небывалай,
Хай ён прыходзіць да мяне,
Я ж выхаваны дасканала.

# Казка пра цецерука Балбатуна

Жыў у лясным гушчары стары цецярук. Ганарысты, самаўпэўнены, ён ні з кім не сябраваў. Зрэдку да яго прылятала сава, родная цётка, каб расказаць пра лясныя навіны. Аднаго разу сава расказала цецеруку, што ў лесе ідзе барацьба за ўладу. Крэсла прэзідэнта хочуць заняць і мядзведзь, і воўк, нават барсук не супраць заняць гэту пасаду.

Задумаўся Балбатун: „Што, калі і я паспрабую выступіць са сваёй праграмай? Наабяцаю лясным жыхарам усяго, і яны мяне абяруць прэзідэнтам”.

Цецярук Балбатун пачаў прыдумваць, што ён скажа сваім выбаршчыкам. Забыўшыся пра тое, што яго можа хто-небудзь пачуць, ён гучна загаварыў:

— Шаноўныя лясныя жыхары, калі вы мяне выберацe прэзідэнтам, то будзеце рабіць усё, што захочаце. Я дам вам ежы і піцця. Я...”

Тут прабягаў заяц Весялун. Пачуўшы голас цецерука (гэта было навіной, бо Балбатун ніколі ні з кім не размаўляў раней), заяц апусціў адно вуха, потым крыкнуў:

— Добры дзень, дзядзька цецярук! Што гэта вы там кажаце?

Балбатун сціх, а Весялун падумаў: „Глухі, як пень, а мо зусім з глузду з'ехаў?”

Прывітаўся яшчэ раз. Цецярук паглядзеў уніз, убачыў зайца і рашыў: „Трэба адказаць на прывітанне, бо як будуць мяне абіраць на пасаду прэзідэнта, то паднятая лапа зайца не будзе лішняй”.

— Дзень добры, заяц! Што чуваць у лесе?

— Ды вось шукаюць кандыдата на пасаду прэзідэнта, — адказаў заяц. — Мабыць, ім будзе мядзведзь з суседняга лесу, бо ў нас, кажуць, патрэбнага няма.

Весялун пабег, а Балбатун працягваў марыць: „Хоць на старасці год пакірую. Цяпер трымайцеся, лясныя жыхары! Перш-наперш падбяру сабе надзейных памочнікаў. Цётка сава будзе адказваць за ахову мяне ноччу: яна спіць днём. Бабуля варона будзе маім першым намеснікам: і радня блізкая і самая разумная. Дзяцел, сваяк, будзе папярэджваць пра небяспеку, бо ў яго моцная дзюба, ён зможа мяне разбудзіць у любы момант. У войска набяру зайцоў, ваўкоў, лісаў: няхай ахоўваюць мае ўладанні”.

Седзячы на дрэве, Балбатун заплюшчыў вочы і заснуў. Сніцца яму такі сон: ён ужо прэзідэнт. Нічога рабіць не трэба, усё робяць слугі, а ён толькі паспявае ўказы падпісваць. Вось прынеслі новы ўказ: „Жыхары лесу павінны зімою збіраць ягады і грыбы. Усе без выключэння”. Падпісаў. На тое ён і прэзідэнт, каб яго загады выконвалі.

У час абеду яго акружылі цяцеркі, маладыя і прыгожыя, як калісьці ў маладосці.

Балбатун толькі паглядзіць злосным вокам, і ўсе трасуцца ад страху — вядома, начальства.

Слугі прыносяць дэпешу: запрашаюць яго за мяжу, у Англію.

Парадаваўся цецярук: гэта ж ён убачыць англійскую каралеву, а мо і прынцэса яму падміргне? Так-так, толькі з прынцэсай ён будзе шпацыраваць пад руку па каралеўскаму палацу. Не бяда, што не ведае англійскай мовы: усё пакажа без слоў. Ён успомніў, як калісьці выконваў шлюбны танец перад цяцеркамі, а тыя захапляліся яго выкрунтасамі.

І толькі Балбатун хацеў крутануцца на адной назе, як зваліўся з дрэва, і тут ён прачнуўся. Пабіў сабе галаву, паламаў у хвасце пер'е. Ляжыць і вохкае.

Але яго не шкада: няхай не марыць аб тым, да чаго не здольны. Палез у прэзідэнты!

Тут і казцы канец, а хто пісаў — маладзец.

**Аксана ПУКМАН, 5 клас**
*(Са зборніка „Казкі дзяцей Беларусі”)*



*Шасцікласнікі з бельскай „тройкі”.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Малюнак Паўліны РАМАНЮК з Чыжоў (кл. III) да казкі „Як звяры вясну шукалі”.

# Істотная — культура кожнага з нас

**З Казімежам ДЭРКОЎСКІМ, дырэктарам Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку, гутарыць Ада Чачуга.**

***— На сесіі Ваяводскага сейміка, які адбыўся 28 лютага г.г., былі абвешчаны вынікі культурнага рэйтынгу гмін Беласточчыны і ўручаны ўзнагароды. Як наогул дайшло да такога рэйтынгу?***

— У 1992 годзе, калі ўжо пачалі фармавацца самаўправы, я, тады дырэктар ВААКа, прыйшоў да вываду, што трэба павесці дыялог менавіта цяпер, калі кожная гміна пачала вырашаць сама пра сябе, калі не стала загадаў і дырэктыў. Трэба было будаваць новую якасць кантактаў, дыялогу, дапамогі.

Адразу паявіліся тры групы самаўправы. **Першая** — самастойная, але прызнаючая неабходнасць супрацоўніцтва. **Другая** група лічыла, што як было, так і далей быць павінна (ВААК — вядучая ўстанова). **Трэцяя** група — гэта былі самотныя, я б сказаў, выцішаныя гміны, так званыя нашы белыя плямы. Адна гміна на 55 гмін Беласточчыны лічыла, што ёй не патрэбна ніякая дапамога. Калі ёсць у нас самаўправа, дык ніхто нам у чыгуны заглядаць не будзе, казалі там.

***— Ад чаго ўсё пачалося?***

— Я запрапанаваў праект „Партнёры". У выніку анкеты, праведзенай у гмінах, і рашэнняў ВААКа, была зроблена ўступная класіфікацыя гмін па культурных дасягненнях — у гарадах і на вёсцы. І менавіта тады я зразумеў, што трэба сканцэнтраваць сваю ўвагу на „белых плямах", на самотных гмінах, у выніку чаго ўзнік праект: „Самаўправа — так, самотнасць — не!" Кожны інструктар з ВААКа у 93—94 гг. мог выбраць гміну, у якой мог бы рэалізаваць сваю ідэю.

***— Ці маглі б Вы падаць нейкі прыклад такой „белай плямы", якую ўдалося ажывіць?***

— Класічным прыкладам, як можна разварушыць ціхую гміну, з'яўляецца тое, што дзеялася ў гміне Новы Двор. Можна смела сказаць, што Станіславе Красоўскай з ВААКа ўдалося ў гэту гміну ўкампанавацца!

***— Ну, а што там, напрыклад, змянілася?***

— Мы пачалі ад найпрасцейшых мерапрыемстваў, вось як хаця б футбольныя матчы між гміннай элітай (старшыня рады гміны, войт, дырэктар школы, начальнік пошты, ксёндз і бацюшка, радныя) і солтысамі з гміны. Я гэтыя матчы вёў і каментаваў. А прысутнічала, бадай, цэлая гміна. Пасля матчаў адбываліся фэстыны. Важна пры гэтым было тое, што ў футбол гулялі мясцовыя людзі, а не госці з заграніцы.

Былі арганізаваны таксама „экалагічныя" бегі пад загалоўкам „Ля крыніц Бобры", у якіх узялі ўдзел дзеці і дарослыя.

Падключылася суседняя гміна Сідра — таксама не туз у галіне культуры (з ВААКа супрацоўнічала з ёю Анна Кавальская). Адбыліся два футбольныя матчы „Бітва за мяжу", дзе змагаліся дзве суседнія эліты ўлады (з Новага Двара і Сідры). У Сідры адбыліся так званыя варштаты, г.зн. курсы для журналістаў мясцовай прэсы і тэатральныя варштаты.

***— Колькі гмін нашага ваяводства ўзяло ўдзел у рэйтынгу культуры ў 1996 годзе?***

— Падала заяўкі 21 гміна. Гэтыя гміны, я б сказаў, змагаліся самі з сабою. Мы атрымалі праграму іх культурнай дзейнасці ў мінулым годзе. Нашым заданнем было супаставіць, параўнаць яе з тым, што адбываецца ў жыцці, што рэалізуецца. Хаця была створана камісія, мне як аўтару праекта далі магчымасць выбраць найлепшыя, на маю думку, гміны і ўручыць ім бронзавыя статуэткі. Я выбраў сярод вёсак Нараўку, а сярод гарадоў — Бельск-Падляшскі.

Найважнейшым пытаннем, якое я сам сабе пры гэтым паставіў, было: наколькі дзейнасць ваяводскага асяродка культуры была прыдатная? Калі, напрыклад, Бельск-Падляшскі абсалютна самастойны з яго патэнцыялам прафесійных сіл і сам сабе можа цудоўна даць рады, дык прыкладам інспірацыі звонку можа быць Нараўка. Яны нашы ідэі, праекты выкарыстalі для будовы ўласнай самастойнасці. Але што цікавае ў Нараўцы, што можна было запрапанаваць іншым гмінам, дык гэта супольнасць імкненняў рады гміны, войта і культурнага асяроддзя.

***— Гэта вельмі важна!***

— Можа там і ёсць нейкія ўнутраныя праблемы, бо дзе ж іх няма, але звонку — усё гэта гміна: нашы дзеці, наша школа, якая сёлета будзе гатовая, наш амфітэатр і г.д. Тут разам з матэрыяльнымі зменамі заўважаюцца змены ў культуры.

Другой гмінай, дзе адчуваецца клопат пра вёску, з'яўляецца гміна Чыжы.

***— У катэгорыі гмін ацэнка камісіі была ідэнтычная з Вашай: на першым месцы — Нараўка, на другім — Чыжы.***

— Ацэнка камісіі была амаль сходная з маёю, хаця мы падсумоўвалі абсалютна незалежна. Толькі ў катэгорыі гарадоў Бельск-Падляшскі апынуўся на другім месцы за Лапамі, не згодна з маім поглядам на гэту справу.

***— На Ваяводскім сейміку Вы запрапанавалі на 1997 год новы рэйтынг.***

— Так, своеасаблівую канфрантацыю мясцовай прэсы. Хацелася б, каб ініцыятыва грамадскага жыцця выходзіла ад мясцовых газет. Каб кожны ў ваяводскім цэнтры, узяўшы ў рукі такую газету, мог убачыць сапраўдны вобраз жыцця ў той гміне. Прыкладам можа быць „Echo Michałowa", якое заўсёды верна адлюстроўвала жыццё гміны. Газета не павінна перадрукоўваць вядомыя ўжо з іншых газет факты.

Ужо ёсць першая заяўка на ўдзел у рэйтынгу: газета „Rozmaitości" з Чорнай-Беластоцкай (рэдактар Кшыштаф Асташэўскі).

***— У Бельску людзі мне казалі, што былі захоплены выступленнямі на Ваяводскім сейміку.***

— Было гэта сапраўды цудоўнае відовішча. Я выбраў тры гміны на гэты паказ: Лапы, Нарву і Бельск-Падляшскі. „На культуру" мне ўдалося здабыць аж дзве найлепшыя гадзіны (10—12-ая) пасяджэння сейміка. З аднаго Бельска выступіла 150 чалавек.

***— Ну, і Ніна Грыгарук, кіраўнічка курашаўскіх „Незабудак", мела нарэшце сатысфакцыю...***

— Так, войт Чыжоўскай гміны Рыгор Мацкевіч хацеў ёй уручыць Залаты крыж заслугі на сесіі Рады гміны, а мы запрапанавалі зрабіць гэта на бальшым форуме, у вялікай самакіруючай сям'і — на Ваяводскім сейміку. Пасля мы сустрэліся на каве ў нашым аддзеле.

***— І такім чынам ажыццяўляецца асноўны тэзіс Вашага даклада на спамянутым пасяджэнні!***

— Сапраўды, пры фарміраванні грамадзянскай культуры ў дэмакратычнай дзяржаве, што важнае асабліва на Беласточчыне, істотнай з'яўляецца культура кожнага з нас; хто тут толькі не жыве — мае права існаваць, развівацца і ніхто не мае права яму ў гэтым перашкаджаць.

***— Дзякую за размову.***

**Ада Чачуга**

# Вылучыліся культурнасцю

На пасяджэнне Самаўрадавага сейміка Беластоцкага ваяводства, 28 лютага, былі запрошаны гміны, якія ў мінулым годзе падрыхтавалі і рэалізавалі найлепшыя праграмы культурнай дзейнасці. Да аб'яўленага чацвёрты ўжо раз дырэктарам Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку, Казімежам Дэркоўскім, спаборніцтва „Самакіраванне — так, самотнасць — не" прыступіла дваццаць адна гміна (на 55 усіх). Журы ацэньвала, між іншым, выдаткі на культуру, грамадскі артыстычны рух, арыгінальнасць і ўзровень культурных мерапрыемстваў, базу для культурнай дзейнасці і прафесіяналізм дакументацыі зробленага, колькасць чытачоў прэсы і кніжак, удзельніцтва гміны ў ваяводскіх, агульнапольскіх і замежных імпрэзах ды заангажаванасць самаўрадавых улад у ажыццяўленні праграмы.

У катэгорыі гарадскіх гмін гран-пры было прысуджана Лапам. Другое месца ўзяў Бельск-Падляшскі — „вулкан культуры", паводле выказвання дырэктара Дэркоўскага. Найлепшай вясковай гмінай журы палічыла Нараўку. Вось гэтыя тры гміны і атрымалі нялёгкую задачу прэзентаваць свае культурныя дасягненні ў тэлеграфным скарачэнні.

„Здаровая гміна" Нараўка ўвайшла бадзёра, у рытме марша. У культурным квадрансе паявіліся нараўчанскія калектывы „Душкі з пушкі" і „Лучына" ды ляўкоўскія „Цаглінкі". Гміна пахвалілася таксама дзейнасцю Клуба сеніёра, мастацкага і фатаграфічнага гурткоў, спартсменамі. Шкада, аднак, што толькі „Цаглінкі" заспявалі па-беларуску. Выглядала гэта так, быццам спаланізаваная моладзь зусім не цэніць сваёй спадчыны (К. Дэркоўскі гаварыў, што захаванне роднай мовы павінна быць прыярытэтам). Мы ж ведаем, што „Душкі з пушкі" не толькі прыгожа танцуюць, але і не горш спяваюць беларускія песні. Тут яны выступілі, без сумнення, вельмі добра, але ж так танцаваць і спяваць па-польску могуць і Лапы.

Падрыхтаванае ў форме інфармацыйнай перадачы „Тэлеэкспрэс" выступленне Лапаў мела незвычайны пачатак. Народныя спевакі выйшлі з ... калядкай „Dzisiaj w Betlejem" (у Вялікі пост!). А потым, як быццам для раўнавагі, былі і купальскія песні. Цікавейшымі за фальклор у гміне Лапы здаліся формы сучаснай, урбанізаванай культуры.

Бельск, сапраўды як вулкан, выплюхнуў на сцэну лаву артыстаў, ад наймалодшых — беларускай „Жуpaвінкі" і ўкраінскага „Ранка" — па Хор польскай нацыянальнай песні і „Васілёчкі", якім ужо больш за трыццаць гадоў. Вядома, не магло абысціся без такіх зорак, як „Дзявочыяноткі" з беларускага ліцэя ці „Маланка". Каларыт прэзентацыі Бельска дапоўніў элегічны гімн на англійскай мове — *gospel* з амерыканскага Поўдня.

Дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку, апрача гэтага, узнагародзіў Нараўку і Бельск спецыяльнымі статуэткамі за найбольш пастаянную і ўсебаковую культурную дзейнасць.

Варта дабавіць, што другое месца ў спаборніцтве сярод вясковых гмінаў — хаця не былі запрошаны ў Беласток — атрымалі Чыжы (К. Дэркоўскі назваў іх „найбольш сімпатычнай гмінай у вясковым асяроддзі"). Жыхарку гэтай гміны Ніну Грыгарук з Курашава віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі ўзнагародзіў, ад імя прэзідэнта Польшчы, „Залатым крыжам заслугі". Спадарыню Ніну ведаем як нястомную аніматарку культурнага жыцця на вёсцы, перш за ўсё як заснавальніка і кіраўніка курашаўскага калектыву „Незабудкі".

**М. В.**

# Спявалі пераможцы

9 сакавіка ў Гайнаўскім доме культуры прайшоў канцэрт лаўрэатаў сёлетняга Фестывалю беларускай песні „Найлепшыя з найлепшых". Прынялі ў ім удзел: „Арэшкі" з Арэшкава — па словах вядучага канцэрт Мікалая Бушко, найлепшы беларускі фальклорны калектыў у Польшчы, бельскія „Васілёчкі", „Расспяваны Гарадок" са Сцяпанам Копам, дзявочая група з Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання з Гайнаўкі, „найлепшы беларускі хор у Польшчы" — з Гайнаўскага дома культуры, Генадзь Шэмет і Ева Алімоўская з нарваўскага „Пронару" і эстрадна-вясельны гурт „998".

А пачалі канцэрт „будучыя лаўрэаты" — гайнаўскія дзеткі, якімі другі ўжо год апякуецца Анна Стрыха. Галасістасцю і адвагай на сцэне вылучаюцца ў калектыве сёстры Ася і Юстына Янчук.

Чатыры жанчыны з Арэшкава паказалі, які прыгожы наш фальклор. Заспявалі галасіста дзве любоўныя песні: „На камэні ногі мыла" і „Віеют вітры", без акампанементу, без модных цяпер, а непатрэбных — асабліва для старэйшых жанчын — падскокаў. Аж міла было паслухаць.

Незразумела, затое, якім чынам у лік лаўрэатаў Фестывалю беларускай песні трапіў гурт „998". Хлопцы-пажарнікі можа і сімпатычныя, але свой рэпертуар склалі з колішняга „Дубіноў", прычым развучвалі песні, відаць, з касетаў, неміласэрна іх перакручваючы і калечачы. Гэта, пэўна, не мяшала б за застаўленым сталом на „Sylwestra po raz drugi".

На звышдзвюхгадзінны канцэрт, аднак, варта было прыйсці. Хаця б дзеля добра вядомых „Васілёчкаў" ці мясцовых харыстаў, якія заўсёды трымаюць высокі мастацкі ўзровень сваіх выступленняў. Шкада, што ў зале было нямнога гледачоў. Ці прычына тут толькі ў білетах (па 6 злотаў)?

**(ак)**

# Доктар пан

**— Калі хто мяне кахае, — сказала на развітанне хворым у палаце пані кардыёлаг, — то няхай мяне шукае ў лекарскім кааператыве „Эскулап". Не думаю працаваць у гэтай бальніцы за г... грошы.**

Вось які клопат мае цяпер пані Вера П. Доктарка была някепская, разбіралася ў „сардэчных справах", але каб працягваць лячэнне ў гэтай прафесіяналкі, трэба мець торбу новых злотых, ано толькі на візіты ў яе кабінеце, не кажучы пра лякарствы. А сэрца ў пані Веры шванкуе ўсё больш, ды і не толькі яно... Не будзем тут прыводзіць статыстыкі, але перш за ўсё сардэчныя захворванні кладуць у магілу вялікую частку грамадства, нягледзячы на ўзрост. Таму заўсёды

**доктар мае занятак.**

— Калі яшчэ трымаешся на нагах, то не дай Божа трапіць „лапідухам" у рукі. А то знойдуць столькі хваробаў, што ты здзіўляешся, што яшчэ ходзіш па белым свеце. Гэтае „хаджэнне па пакутах" выцягне з цябе апошнія сілы і грошы, і расхвараешся яшчэ больш, — уздыхае пані Вера.

**Доктару вераць**

бо каму ж верыць? Толькі хіба самому Богу. На тое ж урача столькі часу вучылі, і як сам мусіў старацца, каб вывучыцца! А як цяжка трапіць у медыцынскую акадэмію! Не скажаш, прафесія прэстыжная. І адказнасць якая. А на грошы цяпер наракаюць усе.

— Мне той іхні страйк надаеў горш горкай рэдзькі! — злуецца Міхал П. — Толькі, барані Божа, не падавайце нашых прозвішчаў у „Ніве"!!! Давядзецца кожнаму, хоцькі-няхоцькі, трапіць **ім** у рукі. Але, вось, у нашай амбулаторыі стараліся прымаць людзей, нягледзячы на тое, што аб'яўлены сваёю гарою страйк, бо грып паваліў народ. Субота, урачы ўсе раней выходзяць, астаецца ў кабінеце адна пані доктар. Цяпер прымае за грошы, у той жа „пшыходні". І тады ў той час мае зусім іншы падыход. Хворага вітаюць як найбольш жаданага ў жыцці госця. Хоць, папраўдзе, доктар Ж. сапраўды вельмі добры медык, усё чалавеку і ў іншы дзень расталкуе, пакажа ў кніжцы, параіць, накіруе куды трэба, дае правільны дыягназ. Сам на сабе гэта я праверыў — быў раней у процьмы тэрапеўтаў і спецыялістаў, а яна адразу дадумалася, у чым справа. Але калі справа ў лякарствах, дык яна адразу выпісвае такія, што не толькі бацылу ці віруса ўгробяць, але і чалавек потым ракам ходзіць. А што ёй шкадаваць лякарстваў, аптэка ж таксама мусіць зарабіць, ну не?

**У аптэках**

ёсць усё, але за якія грошы, — наракае бабульба з пасёлка „Тысячагоддзя" ў Беластоку. У руках — кулёк з лякарствамі, якія мусіць прымаць пастаянна; што ж, старасць не радасць. — Калісьці толькі таблеткі з „крыжыкам" ці „пеўнікам" ды рыцыну можна было без праблем тут купіць. Але ж жэрці прыходзіцца мне не толькі пілюлі, трэба, каб і на хлеб крыху асталося! І мой стары хваравекі, добра, што ад падатку нам адлічваюць, але ж аж на наступны год! Каб хоць нам, старэчам, давялося таго гада дачакацць!

— Не дай Божа

**ехаць на „пагатове"**

— кажа Зінаіда К., — або яго выклікаць! Мая дачка заслабла ўначы. Прыехалі досыць хутка. Кажу, што ў яе праблемы з сэрцам. Доктарка якаясь злосная — вядома, ноч — нават не глянула ў кардыяграму. Паслухала сэрца і лёгкія і, сказаўшы „дабранач", накіравалася да дзвярэй. Калі я падбегла да яе і запыталася, што з маёю дачкою, лекарка гаркнула: „Вось на вуліцах колькі параненых канае, а вы тут мне час забіраеце!"

Гэтая дохтарка, кажуць, вядомая ў Беластоку. Не дай Бог трапіць на яе дзяжурства! Прыкметы: з-за выгляду бяруць яе за санітарку, таўставатая, у ватніку, нерухавая. Вечна злосная, у дзень ці ў ноч. Ці не яна прыехала да спадарыні Кацярыны Г., калі ў яе сябра быў інсульт? Старэчу паралізавала правы бок цела. „Чаго тут прытварацца?! — закрычала на яго доктар. — Хопіць выдурняцца! Вы ж усім добра валодаеце! Ну, варушыце нагою, рукою!" Трасла дзядулем, калаціла яго, і яшчэ ў большай злосці паехала. Праз паўдня зноў выклікалі „скорую". Лекар выклікаў рэанімацыйную карэтку, каб на сігнале везла дзедку ў бальніцу. „Чаму так позна паведамілі! — крычаў спалоханы лекар. — Гэта ж для яго могуць быць апошнія хвіліны!.." Дзякуй Богу, васьмідзесяцідвухгадовы дзядуля, паляжаўшы ў бальніцы, неяк папраўіўся. Але ў такім узросце да здароўя цяжка вярнуцца.

Слаўка М. завезла свайго двухгадовага сына ў бальніцу, з накіраваннем з амбулаторыі (хлопчык ужо трацію прытомнасць; трэба было яго адразу падключыць пад кропельніцу — сказала педыятр у амбулаторыі). Дзяжурная ўрач адправіла яго дадому. На згадку пра кропельніцу закрычала: „А вы ўяўляеце,

**колькі гэта каштуе?**

Што за людзі! Будуць тут мне гаварыць, што я маю рабіць!" Хлопчык пасля праляжаў на інфекцыйным аддзеле пяць тыдняў. У чацвёртым тыдні, разам з іншымі малымі пацыентамі ў палаце, меў цяжкае запаленне лёгкіх. Дадому прывёз ветраную воспу і адпараную попку. Спадарыня М., якая сядзела амаль цэлымі днямі пры малым, заўважыла:

— Некаторыя дзяжурныя лекары, здаецца, не цікавіліся малымі. Доктар К. пры мне ніколі не заглянула ў нашу палату пасля „абходу". Але доктар Дароту Р. мушу пахваліць, усё заглядала да дзетак, тлумачыла бацькам прычыну хваробы, казала, чым лечаць дзяцей, як дзейнічаюць лякарствы, што з малым трэба будзе рабіць пасля... А вось іншы доктар, у той час дзяжурны, паклікані бацькамі, бо ў дзяцей тэмпэратура была каля 40 градусаў, сказаў: „Інфекцыя" і пайшоў у сваю каморку. Калі маці, адчакаўшы з паўгадзіны, пабегла яго патрывожыць (якраз глядзеў фільм), папрасіць ратунку, сказаў ёй так: „Гэта не мая справа. Я гэтай палатай не займаюся". То які ён там дзяжурны? Чаго тады там сядзіць? А плач дзяцей, здаецца, мала непакоіў медсясцёр. Дзеці вішчалі, бо пялюшкі мокрыя ці брудныя, і ад жалю, нуды, а тады сястрычкі часам рэагавалі, калі той „канцэрт" пераходзіў у істэрыку, малечы аж заходзіліся. І часта аж трацілі голас, і ад знямогі засыналі. Тады было ў бальніцы ціха. „Хто каго перагрымае".

— Прыходжу я да малога, — расказвае Галіна Т. — Ідзе кропельніца. Ручкі і ножкі прывязаны да штыкецін ложачка, праз грудзі пялюшка прывязана, што дзіця аж дыхаць не можа. А ручка — як балон, чырвоная. Бягу ў пакой, дзе сядзяць медсёстры, каву п'юць. Кажу, што кропельніца кепска падключана. — Dobrze, dobrze, proszę się nie wtrącać. Jesteśmy tutaj wszyscy kompetentni. A jak coś się stanie, **szpital odpowiada.**

Калолі яго ў той дзень яшчэ чатыры разы, наракалі, што жылы слабыя. Кропельніца, якую пачалі ўколваць у 11.15, пайшла ў 17.20.

Пра сваё прабыванне на радзільным аддзеле ў Г. Аліна Л. успамінае неахвотна. Калі б не „школа родаў" і шчасце, не мела б сына жывога.

— Трапіла я ў шпіталь якраз у такі час. Крычу, што вось раджу, а медсятра: „Прабачце, якраз у нас зараз ідзе перазменка". Пакуль прыйшла другая змена, галоўка хлопчыка ўжо паказалася, з шыйкай тройчы акручанай пупавінай. „Ale siniaka pani urodziłaś!" — пракаментавала прыбіральшчыца. І вазьмі тут чакай людскіх родаў!

— А я ведаю добрых урачоў. І ў нас, і ў бежанстве, у Расіі. І па мястэчках перад вайной. Былі такія, як доктар Рачкоўскі ды Тадэвуш Ракавецкі ў Гайнаўцы, — расказвае Іван Кастанчук, амаль ужо дзевяностагадовы. — Праўду кажучы, у мяне самога здароўе было някепскае, таму і столькі гадоў маю. Бывае, даб'ешся да дохтара на фуры ў глухую ноч. А ён адразу нахіліцца над чалавекам. Разбіраецца ва ўсім, сардэчна. Але гэта былі дахтары сапраўдныя, з прызваннем. Спаткаеш такога, то аж жыць самому хочацца! Найлепшае ён сам лякарствы, і надзею дае, каб жыць.

**Запісала Міра ЛУКША**

# НАШЫ КАРАНІ

**XCVII. Святло з нетраў пушчы**

Даўняе ўладанне гаспадарскае, г.зн. вялікіх князёў літоўскіх, — Нарваўская пушча. Яна прасціралася ў XVI—XVIII ст.ст. паміж верхнім цячэннем рэк Нарвы і Нараўкі аж да іх злучэння і вельмі рана стала месцам пустэльніцкага подзвігу. Сведчаннем таму ліст пустэльніка Галляша з XVII ст., у якім ён, між іншым, падае, што прыстанішчам яму была Нарваўская пушча: „У якой жыў я семнаццаць гадоў, жывіўся з пчолкі і ягад сухіх, апостальскую цікучую ваду (інакш: расу — М. Г.) піў і не штодня і не ўдосыт. Тое пад прысягаю шчыра кажу. А калі сталі майму жыццю суседнічаць людзі і мяне непакоіць, тады задумаў я ў Святую зямлю падацца..." Можна меркаваць, што ў Нарваўскай пушчы пустэльніцкае жыццё было даўняй традыцыяй.

Каля паловы XVI ст. кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Аўгуст надаў Нарваўскую пушчу свайму ўраднiку, падстаросту гарадзенскаму, князю Івану Масальскаму. Род князёў Масальскіх сваім пачаткам узыходзіць аж у IX ст., ад паўлегендарных Рурыкавічаў, якія ўладарылі Чарнігаўскім княствам. Прозвішча ж „князі Масальскія" паходзіць ад старажытнага горада Масальск, што непадалёку сённяшняй Калугі. Удзельнае Масальскае княства ў XIV—XV ст.ст. знаходзілася наперамена ў залежнасці то ад Вільні, то ад Масквы. Князі Масальскія з бегам часу па розных прычынах рассеяліся па ўсіх беларускіх, украінскіх і расійскіх землях. Яны доўгія стагоддзі былі непахіснымі вернікамі і апекунамі праваслаўнай Царквы.

Сын князя Івана, Фёдар Масальскі — маршалак гарадзенскі і каралеўскі дваранін — прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці І Рэчы Паспалітай (памёр у 1617 г.) і прыдбаў значную маёмасць з цэнтрам у Масалянах каля Бераставіцы. Ён таксама заняўся добраўпарадкаваннем Нарваўскай пушчы: засяліў гэты немалы абшар беларускім праваслаўным людам з наваколля Бераставіцы і Алекшычаў. Пераселенцы хутка выкарчавалі значную частку пушчанскіх нетраў, выраблі іх на поле і сенажаць, а калі скончыўся тэрмін іхняе „волі" (дадзенага панам часу вольнага ад данінаў і прыгоннай працы дзеля добраўпарадкавання пушчы), Масальскі заснаваў тут фальваркі („подваркі") Нараўка, Семяноўка, Лука, Міклашэва, Ляўкова і іншыя, замацоўваючы за імі прыгонных сялян.

Для духовай апекі над насельніцтвам князь Фёдар у 1607—1617 гадах „уфундаваў у новым сваім месце Нараўцы... царкву Увазнясення Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста... і пабудаваў манастыр мужчынскі закону нашага грэчаскага старажытнага (інакш: праваслаўнага — М. Г.), у якім каб служба Божая няспынна правілася. На гэты манастыр мой Нараўчанскі названы даў я грунт і паселішча падданых у обрубе сваім валокаў дваццаць (каля 400 гектараў), а на калямаластырскую гаспадарку валокаў тры (каля 60 га)..." пісаў у тастаменце князь Фёдар Масальскі і там жа дадаў, што манастыр аддаў „пад бласлаўленне Свяцейшага Патрыярха Канстанцінопальскага, бо іерархіі яго здаўна прыналежным, і даручыў архімандрыту і настаяцелю манастыра нашага брацкага Віленскага" (Свята-Духава манастыра — М. Г.).

Праваслаўны Свята-Праабражэнскі (Спаса) манастыр у Нараўцы дзейнічаў, як належылася абіцелі — ціха, спакойна, але настойліва, непахісна. Пратрываў ён усе нягоды, ахвярна служыў навакольнай праваслаўнай грамадскасці, быў збаўчым востравам праваслаўя ў моры уніяцтва, здрады веры продкаў. Нягледзячы на тое, што нашчадкі яго фундатара-заснавальніка перайшлі ў каталіцызм, а сваіх падданых прымусам заганялі ў унію, Свята-Праабражэнскі манастыр заставаўся верны праваслаўю. На жаль, ліквідаваў яго ў 1824 г. праваслаўны расейскі цар Аляксандр І, вядомы прыхільнік каталіцкага Касцёла і уніі. Аднак болей чым двухсотгадовая дзейнасць гэтага манастыра не прапала марна. Дзякуючы яго дзейнасці, духоваму подзвігу некалькіх пакаленняў нешматлікай, але ахвярнай тамашняй манаскай брацці захавалася па сённяшні дзень у навакольнага насельніцтва глыбокая рэлігійнасць.

**Мікола Гайдук**

# Злачынства ў Валілах

**Валілы-Станцыя распаложаны непадалёк Гарадка. Ноччу з 28 лютага на 1 сакавіка група п'яных маладзёнаў закатавала насмерць 47-гадовага мужчыну. Другая ахвяра бойкі, 41-гадовы жыхар Валілаў-Станцыі, выжыў. Як пазней пісала мясцовая прэса, у Гарадку ад двух гадоў дзейнічае хеўра, якая мэтай ставіць сабе знішчэнне алкаголікаў.**

**Маці яго не пазнала**

Вулічка, дзе закатавалі насмерць Міраслава К., напамінае сапраўдны тупік. Мясціна Валілы-Станцыя адрозніваецца ад традыцыйнай вёскі Беласточчыны і нагадвае хутчэй акраіны горада. Побач шашы раскінулася частка сядзіб, якіх спалучаюць пясчаныя, часта сляпыя вулачкі. У такім напалову сляпым завулку расправіліся з Міраславам К. У месцы трагедыі гараць намагільныя лямпкі. На плоце вісіць пластмасавы хаўтурны вянок.

— Дзень у дзень прыходзяць сюды дочкі і маці забітага, — гаворыць кабета з найбліжэйшай сядзібы. — Бо што і не гаварыць, — дадае, — добры хлопец быў. Нікому дрэннага не зрабіў.

Мая субяседніца даведалася пра забойства, як і ўсе, раніцай. Некалькі хвілін перад шостай. Ноччу нічога не бачылі, не чулі.

— Праўда, сабака ўсю ноч брахаў, але ніхто на двор не выходзіў, — кажа жанчына. — Баяліся.

У солтыса таксама нічога не ведаюць.

— Мы — пенсіянеры, да восьмай спімо, — адказвае пажылы вясковец.

Раніцай, як шум падняўся, солтыс разам з людзьмі пабачыць пайшоў.

— Я то і паглядзець не пайшла, — кажа жонка солтыса. — Мужчыны, што пабачылі, адгаварылі. Казалі, што родная маці яго не пазнала. Твар у крыві, галава разбітая, цела ў ранах і сіняках. Мусілі зверска здзекавацца бо і палавыя органы штыкетай з цвікамі параздзіралі.

— Дагала раздзелі, — успамінае солтыс. — У адных шкарпэтках ляжаў. Ды і рукі як да іконкі зложылі. Раз'юшаныя былі бо і вопратку падзерлі і па платах развесілі. І той, што выжыў, то голы па панадворках бегаў.

**Цёмна ўжо было**

Кастусь Б. не памятае, чаму яго і забітага Міраслава раздзелі.

— Я б усё сказаў, не баяўся б, — кажа ён, — але забі, нічога не памятаю.

Кастусь Б. — стары кавалер, ад пяці гадоў гаспадар. Пазней у газеце напісалі пра яго, як пра віноўніка злачынства.

— З Міркам мы добрыя калегі былі, — разводзіць бяздарна рукі, — лепш за сям'ю якую жылі. У той няшчасны дзень з Міраславам К. гарэлку пілі. Найперш пад магазінам два *вісьнякі* распілі, пазней у Мірка яшчэ бутлю. Я яму ў суботу ў лесе дапамагаць паабяцаў. І вось як дапамог, — паказвае пажаўцелыя сінякі мой субяседнік.

Эфекты злачынства загналі Кастуся Б. у ложак.

— Цяпер, калі так ляжу, — кажа ахвяра пабою, — то мроіцца шарпаніна. Нейкая з'ява, падобная на дзяўчыну, зваром кідаецца.

Кастусь Б. не помніць, каб ён са сваім сябрам у маладзёнаў гарэлкі прасілі.

— Мірак пяцьсот злотых меў. Мы за свае грошы выпівалі. Цёмна ўжо было, як Кастусь дахаты пайсці надумаўся. Цёмна, гэта ў Валілах час пасля адзінаццатай ночы. Тады гасяць святло.

**Побач склепа**

групы маладзёнаў. Сюды заехала таксама фурманка.

— O nie! Napewno wam piwa tu nie otworzę, — крычыць прадаўшчыца кліентам, што выскачылі з фурманкі. — Jak chcecie, to w puszkach kupujcie.

Магазін у Валілах адкрыты круглыя суткі.

— Człowiek wyboru nie ma, — наракае прадаўшчыца. — Żeby to inna praca była.

Пра забойствы ўжо ацiхла. Людзі адно наракаюць, што парадку на свеце няма.

— На такіх гіцляў то толькі Гітлера або Сталіна, — кажа пажылая бабуля ў хустцы. — Мой сваяк, як за санацыі ў турме сядзеў, то з вашыма за каўнерам вярнуўся. Так пахудзеў, што здалёк відаць было, адкуль вяртаецца. А цяпер на турэмшчыка шэсць мільёнаў *паньство* кладзе. Больш як на сям'ю беспрацоўнага ці п'яніцы.

— І ведаеце, — гаворыць сцішаным голасам іншая кліентка, — сын паліцыянта быў у той бандзе. То хто з вёскі на такога званіць пойдзе.

— А..., — махае рукамі дзядзька без зуба спераду. — Як хочаш уначы да нашай паліцыі дазваніцца, то лепш адразу ў Беласток. Бо нашых нават у хаце найсці немагчыма.

Згаданыя пасажыры фурманкі, моўчкі цягнулі піўцо ў банках.

— Мы не тутэйшыя, — заявіў адзін з іх. — Мы з Дз. прыехалі, піўца крышку папіць.

Усе яны выглядалі на заядлых паклоннікаў алкаголю. Засушаныя, бяззубыя, такія, з якім змагалася якраз гарадоцкая хеўра.

— Каб яны да нас у Дз. прыехалі, — пагардліва плюнуў дзядзька з фурманкі, — то мы іх як сабак павешалі б.

— Niszczyli meneli, — кажа пра арыштаваных маладзён у чорнай куртачцы. Яго сябры адступіліся на бяспечную адлегласць і прыслухоўваліся размове.

— To byli normalni chłopcy, wszystkich ich znałem, — кажа мой субяседнік. — Nie wiem, co o tym myśleć, — дадае ён. — Teraz bym takiemu ręki nie podał!

— У Валілах, — наракае маладзён, — няма для нас разрыўкі. Наша група, — паказвае сваіх аднагодкаў, — у калегі ў хаце сустракаецца. Або ў сяброўкі. Часам усе пад *склепам* збіраюцца. Цяпер кожны сваёй групы трымаецца і таму мы не баімся, — паясняе мой малады субяседнік.

**Чаму забілі Міраслава К.?**

Арыштаваныя маладзёны — вучні або выпускнікі прафесійнай школы ў Міхалове. Сярод іх быў каратыст. Гэты не прызнаецца да віны.

— Я толькі стаяў і глядзеў, — сцвярджае ён.

Двух апошніх прызналіся да злачынства. У той вечар іхняя сяброўка з Валіл васемнаццатыя ўгодкі святкавала. Маладзёны з Гарадка на імпрэзу да яе прыйшлі. Пасля зайшлі яшчэ ў магазін, дапіцца. Там сустрэлі Міраслава К. і Кастуся Б.

— Яны папрасілі ў нас гарэлкі, — тлумачыцца адзін з віноўнікаў.

Гэта так знервавала недапітых маладзёнаў, што рашылі адпомсціць. Распранулі мужчын, бо тыя гаварылі, што хочацца ім спаць, а ў вопратцы ніхто ж не спіць.

— У Гарадку не раз здаралася, што лупілі п'яніц, — кажа жыхарка Валілаў-Станцыі. — Такога выгадна біць. Калі трэба пасведчыць або падаць бандытаў у суд, нічога не памятае. Нават як заб'юць такога, то абвінаваціць іншых стараюцца.

У развітальнай дарозе Міраславу К. спадарожнічала процьма народу. Гэта быў пратэст супраць лютаму і бяскарнаму злачынству.

**Ганна Кандрацюк**

*P.S. Імёны герояў зменены.*

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг;***
***пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

Найгоршым аднак перыядам для нашага народа быў час нямецкай акупацыі. Народ быў абложаны ўсялякімі павіннасцямі. Сабе меў права аставіць толькі мінімум патрэбны для сціплага пражыцця, а ўсё іншае акупанту: малако, мяса, збожжа, воўну і некаторыя ўжо гатовыя вырабы. За найдрабнейшыя правіннасці былі суровыя кары: грашовыя, цялесныя і смерць. Чалавек быў няпэўны кожнага дня, бо жыццё мог страціць за нішто. Так і жыў народ у пастаянным страху.

Трагічнай ношай нашаму народу было тады забіранне нашай моладзі на катаржныя работы ў Германію. А бралі туды многіх нашых дзяўчат, хлопцаў і нават сем'і. Праводзіла іх і развітвалася з імі ўся вёска, як з пакойнікамі. З горкім плачам і жаласнымі песнямі. Хаця я быў тады яшчэ дзіцём, але дасюль перад вачыма стаяць гэтыя трагічныя сцэны з незабыўнымі словамі і мелодыямі:

*Последний нынешний денёчек*
*Гуляю с вами я друзья,*
*А завтра рано чуть светочек*
*Заплачет вся моя семья...*

І плакалі над іх лёсам усе: яны самі, іх родныя і ўся вёска. І было над чым плакаць. Чакала іх там катаржная праца і нечалавечыя адносіны. Многія з іх так і не вярнуліся адтуль дадому.

Па маіх падліках, з нашай невялікай вёскі было забрана на работы ў Германію 18 дзяўчат і хлопцаў (часта вельмі маладых, непаўналетніх), і тры сям'і — разам чалавек трыццаць. Частка з іх пасля вайны вярнулася дадому, частка была вывезена з Германіі ў Савецкі Саюз і адтуль не магла вярнуцца, а частка загінула. Як і чым змераць гэтае гора? Аж страх падумаць, што было б з намі, калі б Гітлер перамог у гэтай вайне!

Але і ў гэтай, здавалася б, безвыхаднай сітуацыі наш народ сумеў прыстасавацца да новых умоў і нейк радзіць у жыцці. І канешне ж часта змушаны быў хітрыць, камбінаваць, рызыкаваць, адным словам. Да малака, напрыклад, рэгулярна далівалі ваду. Паціхоньку білі, рэзалі і калолі жывіну. Каб ніхто не ўбачыў і не данёс, бо даносчыкаў заўсёды хапала, рабілі гэта замкнуўшыся ў хляве. З авечкай ці цяляткам справа была простая, бо гэта культурныя істоты, якія ўмелі захаваць чужую тайну.

А вось з нашымі свіннямі была чыстая бяда. Я лічу, што свінні гэта капрызныя і некультурныя жывёліны, а прыкідваюцца такімі далікатнымі — не ўспеў яшчэ кальнуць ці разнуць яе, а яна ўжо разверашчалася на ўсю аколіцу, дурная, падвяргаючы небяспецы гаспадара свайго. Дзе ж патрыятызм ваш, скажыце? Ці ж не мілей вам, калі сальцам ды віндлінкамі вашымі заядаецца ўласны гаспадар, а не нейкі фашыстоўскі нямчура, якога нават мовы не ведаеце і не дазнаецеся, ці еўшы вашы вырабы хваляць іх, ці ганяць? Таму адпрацавана было некалькі спосабаў пазбаўлення іх жыцця так, каб і не квікнулі. Накладалі, напрыклад, на галаву свінні торбачку з мукой, каб задыхалася ад мукі, і тады ўжо білі, рэзалі ці калолі. Часта не смалілі, бо ў хляве гэтага не зробіш, толькі аблівалі кіпятком і парылі. Потым вырывалі шэрсць, разбіралі, салілі і хавалі мяса ў падрыхтаваныя хітрыя тайнікі. Калі ж удавалася выкрыць такі тайнік — гаспадара і сям'ю яго чакалі вялікія клопаты...

Удзень бралі акупанты, а ноччу — так званыя „партызаны". Яны таксама бесцырымонна бралі ўсё, што толькі трапляла ў іх рукі.

Вельмі дакучлівымі былі шарваркі і частыя варты. Шарваркі маглі быць пешыя і з падводай. Шарваркамі рамантавалі старыя дарогі, пракладалі новыя, працавалі пры пабудове і рамонце аэрадромаў і іншых ваенных і цывільных аб'ектаў. Перавозілі пясок, каменне і людзей. Па чарзе і рэгулярна адбывалі ў сваёй вёсцы варты і хадзілі каравуліць чыгунку...

***(працяг будзе)***

# Мірак

Пасля нараджэння сына Марыся даведалася ад лекара-гінеколага, што больш радзіць ужо не будзе. Толік быў задаволены, што нарадзіўся сын, аднак крыху сумаваў, што не будзе больш дзяцей.

Бацькі стараліся, каб Мірку нічога ў жыцці не бракавала, куплялі яму ўсё. Знаёмыя і суседзі прарочылі, што з дзіцяці вырасце самалюб. Выйшла, аднак, па-другому.

Мірак змалку быў чамусьці заўсёды сумны, з сябрамі гуляў неахвотна, ахвотна затое хадзіў у царкву. Аднойчы, калі хавалі саракагадовага мужчыну, пяцігадовы тады Мірак сказаў: „Ён ужо ў сябе, а мы яшчэ ў гасцях".

У школе вучыўся добра. Калі быў у пятым класе, на Куццю прысніўся яму, што ішоў ён лясной дарогай. Насустрач яму ішоў стары мужчына. Набліжыўшыся, старэча сказаў Мірку:

— Праз пяць гадоў ты з вялікімі мукамі адыдзеш ад сваіх бацькоў і прыйдзеш да мяне.

Мірак праплакаў Усяночную і першы дзень Каляд. Бацькам пра сон не выявіў ні слова.

У другім класе ліцэя Мірак захварэў; марнеў у вачах. Выявілася, што гэта невылечны лейкоз. Бацькоў ён прасіў, каб не плакалі, бо яму пяць гадоў назад прысніўся сон і ён ужо прымірыўся са смерцю. Бацькі, аднак, плакалі.

Пасля пахавання Толік з Марысяй гаварылі ўсім, што няма справядлівасці ў Бога, бо адным дае многа дзяцей, а другім толькі адно ды і тое забірае.

**Аўрора**

# Позірк у мінулае

**28 сакавіка**

1592 г. — нарадзіўся Ян Амос Коменскі, чэшскі асветнік. Паходзіў з мяшчанскай сям'і, якая належала да Брацкага адзінства, мараўскай касцельнай арганізацыі, якая прадаўжала гусіцкія традыцыі. Адукацыю атрымаў у брацкіх школах і нямецкіх універсітэтах Герборн і Гейдэльберг, пасля чаго вярнуўся ў Маравію, дзе спачатку працаваў настаўнікам, а ў 1616 г. быў рукапаложаны ў сан святара Адзінства. Пасля бітвы пад Белаю Гарою ў 1620 годзе, дзе войскі Каталіцкай лігі перамаглі чэшскіх пратэстантаў і Чэхія страціла самастойнасць, пападаючы пад спадчыннае панаванне Габсбургаў, некатолікі апынуліся ў вельмі цяжкай сітуацыі. Ян Амос Коменскі некалькі гадоў скрываўся, аднак у 1628 г., верны сваім прынцыпам, вымушаны быў назаўсёды пакінуць радзіму. Пераехаў у Польшчу і пасяліўся ў Лешне. У 1648 г. быў абраны біскупам Адзінства. У 1656 г. падчас польска-шведскіх баёў, якія таксама мелі рэлігійную аснову, у Лешне ўспыхнуў пажар, які спаліў дом Коменскага разам з ягонымі рукапісамі і архівам. Пасля паражэння шведаў Коменскі вымушаны быў зноў шукаць сабе спакою і пераехаў у Амстэрдам. Яшчэ змаладу Коменскі намерыўся напісаць на роднай мове кнігі, якія б былі асновай навучання, замест кніг лацінскіх. Гэтай мэце мела служыць кніга *Тэатр свету*, якая была свайго роду чэшскай энцыклапедыяй. Каля сарака гадоў прысвяціў Коменскі працы над слоўнікам чэшскай мовы, які, аднак, згарэў падчас спомненага пажару. Напісаў ён таксама кніжку *Свет, які бачым умалюнках* (1658 г.), якая стала ўзорам падручнікаў для навучання чужых моў. Апрача апошняга, сусветную славу прынеслі Коменскаму *Вялікая дыдактыка* (1638 г.), *Адчыненыя дзверы да моў* (1631 г.) і *Лабірынт свету і рай сэрца* (напісаны ў 1623 г., а апублікаваны ў 1631 г.). У апошнім аўтар прадставіў сябе ў відзе падарожніка, а свет — у відзе горада. Вандроўцу спадарожнічае Усюдыпрысутны, які радзіць нічым не перайманца і нічога не асуджаць. Абман надзявае вандроўцу акуляры, праз якія ўсё прадстае ў ружовым колеры. Вандровец скідае акуляры і свет зноў бачыцца яму без упрыгожанняў. Ён заўважае, што ўсе людзі крывадушныя, носяць маскі, любяць грошы і лёгкае жыццё; усюды бачныя фальш і абман. Расчараваны светам, у якім хрысціяне грэшаць больш за язычнікаў, вандровец рашае пакінуць яго, аднак чуе прызыў Усюдыпрысутнага каб закрыць дзверы ў свет і вярнуцца ў адзіноцтва. Коменскі прыдаваў вялікае значэнне роднай мове: ён напісаў яшчэ *Скарбніцу чэшскай мовы* і *Мудрасць старых чэхаў*. Памёр 15 лістапада 1670 г. у Амстэрдаме.

1811 г. — памёр Дасіфей Абрадавіч, сербскі асветнік. Народжаны каля 1740 г. у рамесніцкай сям'і, начытаўшыся жыціяў святых, уступіў у 1757 г. у манастыр, дзе вызначаўся вялікай набожнасцю і стрыманасцю. Расчараваўшыся манастырскім жыццём, у 1760 г. пакінуў абіцель і падаўся ў падарожжа па Балканах і Малой Азіі. Падарожнічаючы, авалодаў больш дзесяці мовамі. Пазней падаўся на навуку ў Гале і Лейпцыг, а затым у Лондан. Прымаў удзел у сербскім паўстанні Карагеоргія ў 1804 г., заснаваў Вялікую школу — зародыш пазнейшага універсітэта. Абрадавіч адказаўся ад літаратурнай тады стараславянскай мовы і ўводзіў у карыстанне народную сербскую, пракладаючы шлях моўнай рэформе Вука Караджыча. Асновай нацыянальнасці лічыў ён мову і традыцыю, а не рэлігію. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Роднае слова

Роднае слова
Горда гучыць.
Гэта дарога
Нам жыць!

Роднае слова —
Гэта бальзам,
Святасць
І не абман.

Роднае слова
Нас заклікае.
Да нас прамова
Усіх паважае.

Роднае слова,
Гэта ручай.
Лечыць знямогі,
Як цёплы май.

Слова не птушка,
Не ўцячэ.
Важнасць, не штучка,
У край пацячэ.

Каб даць нам сілы
Крочыць далей,
Раскрыць свае крылы,
Ляцець высока смялей.

Крочыць, ляцець —
Наш абавязак!
Толькі хацець,
І будзе парадак.

**Мікалай Панфілюк**

## Вясна ў Тафілаўцах

Вясна. Дзесь квакаюць лягушкі
і з выраю вярнуліся птушкі.
Дзетачкі зрываюць *качэнцы*
Узвіваюць прыгожыя веньцы.
Гаспадар усё прыгатаўляе.
Выйсці ў поле ён спяшае.
Хто ў адпаведны час робіць,
Ва ўсім арыентуецца.
У таго і хутка капіталізм будуецца.

**Мар'я Пень**

## Падзяка

Дзякуй табе, Вапа,
Што ты не спужаўся
І далей ў Саюзе
Старшынёй астаўся!

Павядзі нас добра,
Аб'яднай грамаду,
Дабрабыт мы зробім
За тваёй парадай.

Няхай усе людзі
Гэтым весяляцца,
Як будзем пад табою
Дружненька яднацца.

Каб было ўсім добра
У дзяржаве жыці,
Трэба нам супольна
Адзінства тварыці.

Я табе жадаю
Шчасця ды здароўя,
Мець радасць ад працы,
Жыць з усімі добра.

**Мікалай Лук'янюк**

## Паэт і дыета

*Забыў вол, як цялятkам быў.*

„Мае мілы людзі,
Хачу вам сказаці"
Што паэтаў гмінных
Трэ часам чытаці.

Калі пяро лёгка ходзіць,
Мілы мой *паэта,*
Дык ты лепш нам напішы,
Як зрабіў ты гэта,

Што ў раду гмінну ты калісьці
Папаў мой міленькі?
Ці за „крыжык" не прыйшліся
Чарачкі маленькі?

Калі райцам быў *паэта,*
(Што? Ужо забыўся?)
Дыету сабе павышаў?
Чужой водкі напіўся?

Пэўна і „ў сваю кішэню"
Палажыў што нешта?
Цяпер з гора па мінулым
Ты „шмаруеш" вершы?

„Мае мілы людзі
Хачу вам сказаці",
Што паэтам гмінным
Трэба прабачаці.

Таму менавіта,
Што гмінны *паэта,*
Якому з-пад носа
Прапала дыета,
Дзесьці годнасьць сваю губляе
І аб тым, як сам райцам быў,
забывае.

**„Астанец"**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Я — каталічка, але сніцца мне, што я ў царкве. Уваходжу туды па бетонным парозе, але там — балота, гразка. Царква ўсярэдзіне невялікая, але высокія вокны. З падлогі павырываны памаляваныя жоўтым колерам дошкі. У тых месцах стаіць вада — чорная, брудная.

У царкве гарыць шмат свечак. А я свечкі не маю. Шукаю, хачу запаліць свечку — доўгую, тонкую, але нідзе няма. Нарэшце знаходжу нейкі абломак свечкі і запальваю, але яна не хоча гарэць, гасне. Застаўся толькі чорны кнот.

Няма дзе сесці. Бачу зэдлік — драўляны, прадаўгаваты. Бяру яго і сядаю.

Астроне! Гэты сон мяне вельмі непакоіць. У мяне ж надта хворая дачка. Ёй зрабілі складаную аперацыю і цяпер невядома, ці будзе яна жыць. Ці не прадвяшчае сон нешта надта кепскае?

**Рэня**

Рэня! Усе элементы твайго сну сведчаць аб нядобрым. Ужо тое, што ты была ў царкве (таксама калі б у касцёле), сведчыць аб суме і расчараванні. А ў царкве ж было яшчэ гразка і ў дзірках у падлозе стаяла чорная, брудная вада. Вельмі небяспечная хвароба! Нават цэлай свечкі ты не магла знайсці, а калі запаліла той абломак, дык і ён згас. Вельмі баюся, што кепска можа быць з тваёй дачкою. Свечкі, калі яны гараць, абазначаюць дабрае. Пагасшыя свечкі прадвяшчаюць цяжкую страту. Твая свечка (быў толькі абломак, як дачка пасля аперацыі) пагасла і застаўся толькі чорны кнот. Чакае цябе страта блізкага табе чалавека.

**Астрон**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. грашовая адзінка ў Францыі, 4. небяспечны жыхар субтрапічных вадаёмаў, 6. Рака ў Англіі, 7. загадчык над гаршкамі, 9. нясвіжская рака, 11. адзін з курыльскіх астравоў, 12. рака на Палессі, 13. важны дакумент, 15. возера ў Карэліі, 17. абрадавая страва, 18. сітуацыя, у якой ваенная часць з усіх бакоў адрэзана ад сваіх войск, 19. астатак ампутаванай канечнасці.

**Вертыкальна:** 1. правы прыток Прута, 2. частка мелодыі, 3. вольны пасяленец на акраінах Расеі, 4. аўтар „Горада сонца", 5. цяжкі час, 6. духавы інструмент, 8. горад між Смаленскам і Віцебскам, 9. баявы вокліч, 10. верш Карана, 14. крыжаносцы, 16. авёс з сечкай, 17. экватарыяльная рака. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 5 н-ра:**

**Гарызантальна:** полка, катангенс, струп, самба, Аня, Агінскі, дзёгаць, два, абшар, Агнія адрасатка, колер.

**Вертыкальна:** Клінтан, патоп, апекс, каранішча, самагонка, сігма, акцыя, Аід, яда, Версаль, Рурык, аўтар.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яўгену Самойліку** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.


# *Ніва*

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

**Ненадоўга стары жэніцца**

*Памятаю я вяселле:*
*Без талерак, ежа ў місках,*
*Пілі госці для пахмелля*
*Увесь час адным кілішкам.*

*Дзмітры Шатыловіч*

Сяброў запрасіў на вяселле,
Музыкаў паклікаў здаля.
Гарэлка была і натхненне,
І п'яных дзядзькоў перапляс.
І поўныя міскі капусты,
Катлеты былі і кумпяк.
Жанчыны мажкія і тлустыя,
З мяне рагаталі: „Дзівак!"
І стравы рукамі хапалі,
З кілішка пілі па чарзе,
І п'яныя нешта крычалі,
Бо п'яныя тут былі ўсе.
А потым было пахмелле,
Ды... маладой не было.
Гуляла, скакала вяселле
Пад музыку танцаў і слоў.
Ад гора кілішкаў трыццаць
І я прыгубіў за сталом,
Каб гэта вяселле і сніцца
Мне нават яно не змагло б.

**Сяргей Чыгрын**

# Дзіва на мяжы

Бажэна Бурачэўская з Гарадка выбралася ў Гродна, наведаць сяброў. Пагасцяваўшы дзянёк, купіла сабе 8 тамоў выдання Уладзіміра Караткевіча, запакавала іх у цэлафанавую „рэкламоўку" і павандравала на вакзал. Давялося крыху пастаяць перад мытняй, бо гандлёвага народу было шмат, усе з вялізнымі торбамі, валізкамі, рукзакамі, калясkамі, мяшкамі... Бажэна — з маленькай торбачкай на дакументы і мяшочкам з кніжкамі — неяк праціснулася да мытнікаў і пагранічнікаў.

Паглядзеў мытнік на сціплы багаж з Караткевічам, і пытаецца:

— А где вы работаете?

— У псіхіятрычнай бальніцы.

— А, тогда всё понятно. Проходите.

**(лук)**

# Ніўка



*— Гэта ты прапанаваў маёй жонцы распрануцца?*

Малюнак М. Сеўлюка

У кіпцюрах цацерука

# Аберацыі

**Воля**

Вызвалілі „Дзяда" і цану на бензін. Цана пайшла ўгору. Куды адправіўся „Дзяд" — невядома.

**Незалежнасць**

Пакуль Мілка не кабылка (Каштанка), усё бачу ў чорным святле.

**Шчасце**

Кіраўнік дзяржавы расказаў пра шчасце. Цяпер народ ужо ведае, што яно такое — шчасце.

**Disco polo**

Будзе як з камунізмам: усе „жэмПОЛЁм", а ў вінаватых зноўку астануцца беларусы.

**Авіяцыя**

25 жніўня 1996 г. на авіяцыйны фэст у горадзе Быдгашчы сышлося 130 000 гледачоў (сто трыццаць тысяч!). Каб нам вось адзін прынамсі такі самалётфальклёт: і публікі процьма, і з сімвалічнымі парашутыстамі канец. Скочыш з парашутам — будзеш паслом, выскачыш без парашута — паслом не будзеш.

**Прафесіяналізм**

У горадзе Устшыкі-Дольнэ паліцэйскія (чатыры) схапілі злачынца (аднаго). Злачынцу папсаваўся пісталет, а паліцэйскія таксама адзін аднаго не падстрэлілі, за што атрымалі ўзнагароду з рук галоўнага міністра.

**Інтэграцыя**

Беларускіх дзетак у польскай школе англійскай мове навучае італьянец.

**Міфалогія**

Лех, Чэх і Рус шпацыравалі па лесе. Цяжка будзе апраўдацца Леху, што ён не шпіён. Тым больш, што прызваны за сведку Чэх маўчыць і толькі папівае піва.

**Памяркоўнасць**

Не думай, што ён цябе не кахае, калі нават:

— позна вярнуўся дамоў,

— прапіў усе грошы,

— пераблытаў цябе з трэніровачным мяшком,

— узяў пад сумненне прыстойныя паводзіны тваёй маці.

Ён, проста, кахае інакш.

**Міхась Андрасюк**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Падчас спектакля ён з захапленнем глядзіць на актрысу, іграючую галоўную ролю:

— Якая яна апетытная... — шэпча жонцы.

— Магчыма, але вячэраць і так будзеш дома.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Пан доктар, ці такая любоў, як наша, з'яўляецца грэхам?

— Адкуль гэта? Грэх бывае толькі тады, калі з гэтага вынікае прыемнасць.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Што вам дакучае? — пытае ён.

— Маю для вас, пан доктар, загадку: якая розніца між аптымістам і песімістам?

— Не ведаю.

— Песімісту здаецца, што ўсе жанчыны гэта палятухі. Аптыміст прытрымоўваецца другога меркавання, але ўсё-ткі мае надзею, што памыляецца.

— Ну і што мне з гэтага?

— Маю надзею, што пан доктар ўсёткі з'яўляецца аптымістам.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Што вам? — пытае лекар.

— Пан доктар! А каб так вас кінула і выйшла замуж: шкадавалі б вы?

— А чаго ж меў бы шкадаваць чужога чалавека?..

* * *

Лекар аддаў свой аўтамабіль у майстэрню. Калі майстар падаў яму рахунак, той аж знямеў:

— Вы хіба жартуеце: за гадзіну працы хочаце больш, чым я зарабляю за тыдзень...

— Нічога тут дзіўнага: вы, лекары, спрадвечна маеце дачыненне з аднaю толькі мадэллю, а мы, механікі, мусім пастаянна знаёміцца са штораз навейшымі.

* * *

— Ад чаго ў цябе такая рана на галаве?

— Скалечыўся.

— Бярэш штосьці на гэта?

— Бальнічны ліст.

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Сэрцайка, мілае! Мне ўжо дваццаць восем гадоў, а ўсё я адна. Ніяк не магу сабе знайсці мужа. Ды не таму, што я крывая ці сляпая! Думаю, што зусім наадварот. Хлопцаў мне ніколі не бракавала, аднак жа, мушу табе прызнацца, усе яны былі як бы не для мяне, хаця мне падабаліся.

Першы быў прыгажун. Бландзін, слушнага росту, прыемны твар. Заўсёды загарэлы, добра плаваў, ездзіў заграінчным, хуткім аўтамабілем. Ну, кажу табе, кожнай дзяўчыне ён спадабаўся б. А ён заўзяўся на мяне. Ужо так стараўся, усё рабіў, каб мне спадабацца. Ну, і аднойчы згадзілася я з ім праехацца. Ляцеў ён з хуткасцю сто шэсцьдзесят у гадзіну. Я ўжо думала, што развітаюся з жыццём. Але не. Заехалі мы ў прыдарожны рэстаран, пасядзелі, патанцавалі крыху. Вяртаемся дахаты, ужо і месяц на небе паказаўся, а ён раптам — шусь — скіраваў машыну ў лес. Пахадзім, кажа, па свежым паветры.

Як толькі я выйшла з машыны, ён абняў мяне і моцна прытуліў да сябе. Пацалаваў, пасля мы пацалаваліся ў губы, але яго губы былі нейкія халодныя. Усе яго пяшчоты выглядалі так, быццам бы былі задуманы нейкім рэжысёрам. Мне ад іх зусім не было цёпла. А пасля ён хацеў перайсці „да справы".

Я была ў недаўменні. Як гэта? Так адразу? У лесе? Абы-як? Можна было б меркаваць, што я яму так страшна падабаюся, але больш верагодным здаваўся факт, што ён з некім залажыўся наконт мяне. І таму я сказала рашуча: едзем дахаты! Ён ніяк не мог суняцца: чаму? А я кажу: занадта ты мне падабаешся, каб так усё ўзяць і сапсаваць!

Я думала, што ён падумае пра мяне як пра файную дзяўчыну, якая на першы ківок пальцам не ідзе кахацца з хлопцам. А ён?! На другі дзень я сустрэла яго, беражліва абнімаючага на вуліцы іншую дзяўчыну... Да мяне ён не меў ніякіх прэтэнзій, але ўжо і не круціўся там, дзе была я.

Гэты факт насгроіў мяне песімістычна. Неяк ад кожнага хлопца я чакала пазней подласці. Мо бароначыся несвядома перад падобнымі падзеямі, я нават не глядзела на прыгожых і статных хлопцаў.

Але ізноў спадабаўся мне чалавек. Бадай, лёс так хацеў: быў ён падобны на першага хлопца, гуляку. Але толькі з выгляду. Наогул характар у яго быў зусім іншы: быў шчыры, мілы, добры. Адзінай яго кепскай якасцю было тое, што быў ён жанаты. Я закахалася, як дурная, а нейкі ўнутраны голас мне падказваў: грэх, што ты робіш... Я і сама ведала, што нельга будаваць сваё шчасце на крыўдзе іншых, але нічога не магла зрабіць з самой сабою.

А ён такіх мукаў сумлення не перажываў. І так мы сышліся з ім: я — з думкай, што ён калісьці кіне ўсё ж жонку і сына, ён, як высветлілася, — каб цікава праводзіць час па-за домам. Цягнулася гэта пару гадоў, пакуль не дведалася яго жонка і не паставіла справу рубам. Вядома, ён кінуў мяне, а не сям'ю.

А пасля звязалася я са сваім шэфам. Сама не ведаю, чаму я гэта зрабіла. Быў пажылы, меў сям'ю, але мне ўжо было ўсё роўна. Не скажу, час праводзілі мы цікава. Куды ён не ехаў — браў мяне з сабою. Ездзілі разам у Варшаву, Кракаў, Закапанае. Браў мяне і за граніцу (афіцыйна — у якасці перакладчыцы, бо я добра ведаю англійскую мову). Шмат чаго ўбачыла, накупляла розных рэчаў за граніцай. Сяброўкі мне зайздросцілі, а жонка шэфа мяне не чапала, бо „верыла" свайму мужу. Відаць, было ёй выгадна „верыць", бо ў яе былі свае справы.

Год таму назад мой шэф нспадзявана памёр ад інфаркту. Я засталася адна, без ніякай матэрыяльнай дапамогі. Маю сваю кватэру, але нікога не хачу запрашаць да сябе. Сумна і горка неяк. Сяброўкі мае ўжо даўно замужам, маюць і дзяцей. А што мяне чакае? Ці ж вінаватая я, што так склалася маё жыццё...

**Ганна**

Ганна! Кажуць, што кожны чалавек з'яўляецца кавалём свайго шчасця. Я не кажу, што лёс не бывае страшны, калі здарыцца цяжкая хвароба, нешчаслівы выпадак.

У тваім жыцці ўсё было б нармальна, калі б мо ты больш бывала ў кампаніі сяброў, добрых знаёмых людзей, як кажуць, па табе. А ў цябе як не прыгажун дзіўнага характа, які ніводнай бабы не прапусціць, дык жанаты чалавек, а што яшчэ горшае — шэф. Шэф, ён, даражэнькая, найчасцей стары бывае, а стрэсаў у яго колькі! Вось і здарылася так, як здарылася.

Будзь сабою, пачні бываць сярод равеснікаў (могуць быць і маладзейшыя). Яшчэ не ўсё страчана, жыццё перад табою.

**Сэрцайка**